PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (1954) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 24 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ЯШЧЭ АДЗІН ТЫДЗЕНЬ

У сусветны тыдзень апекі над звярамі, пад патранатам святога Францішка, паявілася ў сродках масавай інфармацыі больш матэрыялаў пра "братоў нашых меншых", жывёл, а ўсё гэта паміж гарачымі дыскусіямі пра толькі што мінулыя выбары ў польскі парламент і жахлівымі звесткамі са сталіцы расейскай імперыі і Югаславіі. Людзі "вялі сябе як звяры" (так акрэслівае гэта чалавечая мова): "глядзелі на сябе ваўкамі", "грызліся", "брахалі", "паказвалі зубы", "кідаліся на сябе як звяры", "бараніліся як зацкаваныя ваўкі", перастрэльваліся "крыважэрныя чароды"...

Невядома, чаму чалавек параўноўвае сябе з жывёлай, а, можа, лепш сказаць -- жывёлу з сабой? Звер палюе тады, калі галодны і каб накарміць сваю сям'ю, абараняе свае гняздо, і робіць гэта без вялікіх слоў, бо мова ў яго простая і натуральная. Такая яго натура; калі б ваўку хапала есці траву ці яблыкі, не чапаў бы іншых істот. Чалавек, які можа абысціся без мяса, палюе для прыемнасці, для нажывы, гадуе звяроў на іх смерць. І на такіх жа "...едаў" чалавек выхоўвае сваіх малых.

Чалавечае дзіцё, асабліва ў сённяшні складаны і страшны час, разумее многа. Яго ўражлівыя вочы бачаць больш і зырчэй, чым вочы дарослага. Навучаць яго хутка, як выжыць у джунглях цывілізацыі, дзе калі ты не заб'еш -- заб'юць ды з'ядуць цябе. Родны яго бацька, калі не навучыць сына агрэсіі, навучыць раўнадушша, абыякавасці да зла. Гэта ў добрым маладым чалавеку нараджае бунт. Пратэст праяўляецца па-рознаму. І хаця ўсюды чуваць наракання на маладых -- якраз яны цяпер умеюць свой бунт і боль сканцэнтраваць у цудоўныя акцыі -- дапамогі іншым: хворым, слабым, безабаронным. Без вялікіх філасофій, у якія любяць забаўляцца "старэчы". Юрка Оўсяк крычыць да сваіх на стадыёне: "Я вас кахаю!" Дзеці ў імя любові "бліжняга" збіраюць грошы на лякарствы, на шпіталі, лекарні для пакінутых, параненых гаспадарамі звяроў, на прытулкі для сабак. Да гэтых дзяцей далучаюцца неабыякавыя дарослыя, і ў якіх сэрца баліць ад чужое бяды. Але ёсць жа іншыя, якія не ўшануюць ні чалавека, ні звяра. Патрапяць выпіхнуць непатрэбнага старога сабаку на хаду з машыны, павесіць ці ўтапіць жывёлу ў прысутнасці дзіцяці, здзекавацца над безабароннай істотай. Пройдуць побач ляжачага, пакінуць збітага машынай...



*Змарыўся.* **Фота А. Вярбіцкага**

Цікава, як іх, ужо старых, недалужных і бездапаможных, патрактуюць уласныя дзеці?..

Людзі, будзьма як дзеці ў наш страшны час, бо толькі такім належыць царства нябеснае, царства праўды, незалежнасці і чыстасці душы!

**МІРА ЛУКША**

## УСЯМУ ВІНАВАТА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Да такога вываду можна было дайсці, паслухаўшы выказванні некаторых лідэраў абласных палітычных структур з Гродзеншчыны. Нядаўна гродзенскае тэлебачанне правяло прамы эфір з прадстаўнікамі чатырох партый: Партыі камуністаў Беларусі, Славянскага сабору "Белая Русь", Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Беларускага народнага фронту, якія прадстаўлялі свае палітычныя рацыі і адказвалі на пытанні тэлегледачоў. Адразу ў пачатку перадачы выявіліся дзве выразныя пазіцыі ўдзельнікаў прамога эфіру: прадстаўнікі камуністычнай арыентацыі(ПКБ і ССБР) баранілі светлае савецкае мінулае, а лідэры апазіцыйных структур (БСДГ і БНФ) даказвалі неабходнасць далейшых дэмакратычных перамен у Беларусі.

Характэрнай рысай выказванняў абаронцаў савецкага ладу была адмоўная ацэнка перамен у апошніх гадах. Гэтую ацэнку прамоўцы падмацоўвалі паказчыкамі спаду вытворчасці амаль ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Паводле іх меркаванняў цяперашняе зло пачалося з развалу Савецкага Саюза, парвання гаспадарчага адзінства з Расеяй, набыцця нікому непатрэбнай незалежнасці, што ў выніку давяло да збяднення грамадства, росту цэн, палівунага крызісу і беспрацоўя. З гэтага відаць, што абаронцы старога парадку, у выказваннях якіх было многа пафаснай заклапочанасці аб рабочым класе, не хочуць заўважыць, што Савецкі Саюз распаўся з-за сваёй эканамічнай слабасці, а пагадненне Б. Ельцына, Л. Краўчука і С. Шушкевіча ў Віскулях у Белавежскай пушчы ў снежні 1991 года, было ўсяго толькі нідовішчным акордам, завяршаючым працэс непазбежнага распаду савецкай імперыі.

Прадстаўнікам апазіцыйных партый апрача знаямлення з праграмамі і высвятлення ўсялякіх абсурдаў мінулай эпохі, даводзілася адказваць на, мякка кажучы, недарэчныя пытанні. Напрыклад: "Зачем насильственно навязывать нам белорусский язык?" Прадстаўнік Грамады тлумачыў тады, здавалася б усім вядомую ісціну, што ў Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская, так як у Расеі — расейская, у Польшчы — польская, у Францыі — французская і т. д.

Прадстаўленыя ў перадачы погляды адлюстроўваюць у значнай ступені тое палітычнае процістаянне ў краіне, у выніку якога была зроблена спроба звяргнуць з паста старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. У лістападзе аднаўляе працу Вярхоўны Савет і, відаць, на яго форуме дойдзе да чарговага сутыкнення кансерватыўнага крыла з прыхільнікамі дэмакратычнага рэфармавання краіны. Хочацца верыць, што беларускімі парламентарыямі будуць прыняты цывілізаваныя рашэнні, іншыя ад тых, якія мелі месца ў, ідэалізаванай многімі дзяржаўнымі мужамі, Расеі.

**В. ЛУБА**

## ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ (1)

### РЭЛЬЕФ

Тэрыторыя Нараўскай гміны мяжуе з Бельскай, Гайнаўскай, Чыжоўскай, Міхалоўскай, Нараўчанскай і Заблудаўскай гмінамі. Мяжа яе абапіраецца то ў сцяну Белавежскай пушчы, то зноў бяжыць па рацэ Нараўцы, то па рацэ Нарве.

Рэльеф гміны прадстаўляе сабой злёгку ўсхваляваную нізіну ледніковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 145—170 метраў над узроўнем мора. Трэба заўважыць, што апісваемая тэрыторыя ў геалагічных адносінах даследаваная даволі слаба. Працы, якія праводзіліся тут у розныя перыяды, краналі толькі апошнія, чацвярцічныя адклады.

Паверхня гміны ўсеяна невялікімі ўзгоркамі плошчай ад аднаго да сотняў гектараў і адноснай вышынёй у 15—20 метраў. Найбольшыя высоты сустракаюцца каля Ласінкі (173 метры н.у.м.) і каля Падваськаў (161 метр н.у.м.). Пачынаючы ад Гарадзіска і Ласінкі ўся тэрыторыя мае невялікі схіл у паўночна-заходнім напрамку да даліны ракі Нарвы. У самой даліне гэтай ракі, каля вёскі Козлікі, знаходзіцца найніжэйшая частка Нараўскай гміны — 126 метраў н.у.м., а каля вёскі Пухлы – другое такое месца — 130 метраў н.у.м. Такім чынам, розніца высот дасягае 47 метраў.

Наогул рэльеф не стварае перашкод у развіцці сельскай гаспадаркі. Уся плошча можа быць поўнасцю выкарыстана.

### КАРЫСНЫЯ ВЫКАПНІ

На тэрыторыі гміны рэдка сустракаюцца радовішчы карысных выкапняў. Зямныя нетры гміны дагэтуль вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковыя вывады аб іх багацці.

У многіх месцах знойдзены жалезныя руды асадачнага паходжання. Залягаюць яны ў форме пластоў 15—20-сантыметровай таўшчыні ў далінах рэк. Каля Трасцянкі па даліне Нарвы апрача невялікіх павярхоўных пластоў, сустракаюцца яшчэ крыху таўсцейшыя пласты балотных рудаў на глыбіні 1—1,5 метра.

Мінеральным багаццем з'яўляюцца гліны, розных іх віды. Каля вёскі Трасцянка выступаюць сугліні з праслойкамі глін. Таўшчыня пластоў дасягае тут 8 метраў. Залежы глін выступаюць яшчэ, між іншым, каля Нарвы, Катлоўкі, Прыбудкаў і Сакоў. Маюць яны таўшчыню пластоў ад 0,5 да 2 метраў.

☞ *Працяг на стар. 3*

## CO JEST GRANE?

Ад 30 верасня да 3 кастрычніка гэтага года прайшоў фінал XVII Агульнапольскага конкурсу пластычнай творчасці дзяцей і моладзі, арганізаванага Міністэрствам нацыянальнай адукацыі. Правядзенне падсумавання конкурсу даручаецца кожны год іншаму ваяводству. У гэтым годзе займалася ім Кашалінскае ваяводства.

Узнагароды і вылучэнні ў конкурсе прысуджаюцца камісіяй у рамках паасобных ваяводстваў. Нашае ваяводства заваявала дзве ўзнагароды, каля дзесятка вылучэнняў, а 17 удзельнікаў конкурсу атрымалі права на ўдзел іхніх малюнкаў у фінальнай выстаўцы. Прыемна ў гэтым месцы адзначыць, што абедзве ўзнагароды ў кашалінскім фінале для нашага ваяводства ўзялі вучні Пачатковай школы н-р 3 ў Бельску-Падляшскім

**Ігар Якуць** - клас 6 "ц"
**і Тамаш Семянюк** - клас 5 "д".

Сярод 17 асоб, работы якіх прынялі ўдзел у фінальнай выстаўцы найлепшых малюнкаў аказалася пяцёра вучняў з тае ж "тройкі". Вось іхнія прозвішчы: **Юліта Пацэвіч, Кася Ігнацюк, Кася**

☞ *Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Łapach „Solidarność" Miejskiego Zespołu Opieki Zdrowotnej wystąpiła do dyrektora szpitala z żądaniem by bez zgody „S" nie ośmielił się czasem zatrudnić jakiegoś lekarza. Zwłaszcza psychiatry.*
*(Polityka, nr 40)*

**Капіталізм капіталізмам, але нейкая вядучая сіла быць мусіць. Але чаму хлопцы з „S" баяцца псіхіятраў? Псіхіятр — гэта таксама лекар, як кожны іншы.**

* * *

*Z udziałem 135 delegatów odbył się w Mińsku zjazd założycielski Polskiego Zjednoczenia Demokratycznego — partii powołanej przez Polaków, obywateli Białorusi.*
*(Gazeta Współczesna, nr 192)*

**Праграма гэтай партыі вельмі падобная да праграмы** Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego **— партыі, якая дзейнічае ў Польшчы з лютага 1990 г.**

* * *

*Za drucianym ogrodzeniem pasą się obce krowy, świnie, szczekają po białorusku psy.*
*(Gazeta Współczesna, nr 191)*

**Толькі пазайздросціць рэдакцыі „**Gazety Współczesnej**", што мае ў сваім калектыве журналістаў, якія разбіраюцца ў нюансах сабачай мовы.**

* * *

*W Niemczech za 1 butelkę wódki można kupić 15—20 piw. W Polsce jest zdecydowanie inaczej. Butelkę wódki można kupić za równowartość 3—4 piw.*
*(Rzeczpospolita, nr 234)*

**Таму менавіта і немцы войны прайграваюць. Півам арганізм ніколі не законсервуеш.**

* * *

*W Nowosolnej złodzieje ukradli dwie ikony. Ukryli je w kościele. Za figurą Matki Boskiej. Pewnie w sądzie będą powoływać się na zbliżenie z prawosławiem.*
*(Polityka, nr 40)*

* * *

*Armia Hermana Kwaśniewskiego, generała von Pawlaka i feldmarszałka Bugaja zdradziecko napadła na Polskę. Bez żadnego ostrzeżenia, w niedzielę 19 września, kiedy Bogu ducha winne społeczeństwo oddawało się życiu rodzinnemu, uczestniczyło w obrzędach religijnych lub po prostu zataczało się w ramach zasłużonego odpoczynku, hordy najeźdźców uniosły szlabany graniczne i zalały nasz kraj... Osaczony w Belwederze prezydent wydaje rozkazy, a w lokalach konspiracyjnych zawiązuje się podziemny ruch oporu.*
*(Polityka, nr 40)*

* * *

*Sąd Warszawskiego Okręgu Wojskowego unieważnił wyroki z 1950 r., na mocy których rozstrzelano mjr. Zygmunta Szyndzielarza „Łupaszkę" i jego żołnierzy.*
*(Gazeta Współczesna, nr 192)*

**Праўдападобна цяпер у тых беларускіх вёсках на Беласточчыне дзе „гасцяваў" „Лупашка" паставяць яму помнікі як змагару „за свабоду і дэмакратыю". Магчыма, што паставяць іх за грошы жыхароў тых вёсак, а ўнукі ягоных ахвяраў разам з паняй настаўніцай пакладуць там кветкі і запаляць свечкі. Хто ведае, ці не праспяваюць яму „Вечную памяць".**

* * *

*Gdyńska Baltona wystąpiła z pozwem przeciwko Ministerstwu Spraw Zagranicznych o zapłatę 720 mln zł. za alkohol sprzedany w 1991 r. ambasadzie RP w Moskwie.*
*(Rzeczpospolita, nr 234)*

**Прыемна быць дыпламатам у Маскве — гаворыць журналісты „Нівы" і братняй рэдакцыі „Czasopisa".**

* * *

*Spotkanie parlamentarzystów PSL zainaugurowało nowy sezon sejmowy. Trwają generalne porządki z wymianą podłóg i ścian. Zupełnie nowy wystrój otrzymuje supertani bufet w Domu Poselskim. Hotel także przeszedł jakąś tajemniczą przebudowę i podobno ma teraz więcej sypialni... Na razie w zapomnienie poszedł ustanowiony dwa lata temu zakaz palenia, dotyczący całego kompleksu poza kilkoma wyznaczonymi miejscami. Popielniczek jednak nie ma, więc stoły i podłoga pod salą obrad parlamentarzystów PSL były zasłane petami.*
*(Gazeta Współczesna, nr 193)*

**Ёсць Сейм, у Пасольскім доме амаль дармовы буфет і дастатак спальных салонаў, хлопцы з ПСЛа спаткаліся, Анастазія неўзабаве вернецца ў Варшаву. Нудна напэўна не будзе.**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Напярэдадні 50 гадавіны бітвы пад Леніна** у палявой Кафедры Войска Польскага адпраўлялася ўрачыстая імша. Вянкі на Магілу невядомага салдата ў Варшаве ўсклалі разам з ветэранамі міністр Януш Адзямкоўскі, прадстаўнікі Бюро нацыянальнай бяспечнасці і войска, а таксама дэлегацыя пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы. На другі дзень падобныя ўрачыстасці адбыліся каля Музея баявой садружнасці ў Леніна. Прымалі ў іх удзел ветэраны, прадстаўнікі польскага і беларускага войскаў, праваслаўныя і каталіцкія духоўныя.

„**Правадыры Расеі** не прынялі яшчэ рашэння, ці астанкі **Уладзіміра Леніна**, якія знаходзяцца ў Маўзалеі на Чырвонай плошчы ў Маскве, будуць пахаваны, — сказаў прэс-сакратар Крамля **Андрэй Олігаў**. — Да гэтай пары не быў выдадзены загад, каб цела пахаваць у Пецярбургу, дзе пакояцца родзічы Леніна". Астанкі Леніна знаходзяцца на Чырвонай плошчы з 1924 года, ад смерці стваральніка савецкай дзяржавы. Нядаўна з-пад Маўзалея была выведзена вайсковая ганаровая варта. Улады Масквы працуюць ужо над праектам прэзідэнцкага дэкрэта аб упарадкаванні Чырвонай плошчы, паводле якога астанкі савецкіх правадыроў будуць перанесены на розныя могільнікі згодна з указаннямі іх сем'яў.

„**Хто мае рэальную ўладу ў Беларусі?**" — на такое пытанне, пастаўленае Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук РБ, звыш 27 прац. апытаных адказалі: мафія, 17 прац. указалі на дзяржаўны апарат, каля 9 прац. — на прадпрымальнікаў, 7,5 прац. — на Вярхоўны Савет, а 4 прац. прызналі, што ўлада знаходзіцца ў руках народа.

**У Вільні** невядомыя злачынцы застрэлілі перад ягоным домам 33-гадовага **Вітаса Лінгіса** — намесніка галоўнага рэдактара шматтыражнай газеты „Рэспубліка". Лінгіс быў вядомым аўтарам артыкулаў, прысвечаных мафіі і арганізаванай злачыннасці.

**Улады горада Гданьска** намерваюцца перадаць арганізацыям нацыянальных меншасцей будынак на Востраве Спіхжаў. Будынак плошчаю ў 500 квадратных метраў стане базай для арганізацыйнай і культурнай дзейнасці нацыянальных згуртаванняў, — заявіў старшыня Ваяводскага самаўрадавага сейміка на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай і ўкраінскай меншасцямі.

**7 кастрычніка прэм'ер-міністр Ганна Сухоцка** ўручыла бурмістру Кляшчэль **Аляксандру Сяліцкаму** грамату на гарадскія правы. Такія дакументы былі выдадзены ў гэты дзень пяцю новым гарадам. Урачыстасць праходзіла ў калоннай зале Управы Рады Міністраў у Варшаве. Афіцыйна Кляшчэлі зноў сталі горадам з 2 кастрычніка 1993 года.

**У Саколцы** ў мясцовым асяродку культуры ўжо шосты раз адбылося мерапрыемства пад назвай „Orient Sokólski". Сёлета галоўнай мэтай сустрэчы было „Месца польскіх татараў у цяперашняй рэчаіснасці". З дакладам выступіла, між іншым, **Галена Глагоўская** з Гданьскага універсітэта, якая гаварыла пра ролю татараў у беларускім нацыянальным руху. Варта таксама напомніць, што ініцыятарам такіх сустрэч быў **Мацей Канапацкі**.

**V Сімпозіум аховы лясных экасістэмаў** адбыўся ў Белавежы. На працягу трох дзён з дакладамі і паведамленнямі выступілі навукоўцы з Польскай акадэміі навук і Галоўнай сельскагаспадарчай школы (SGGW).

**У Белавежы** пачалі будаваць ачышчальню сцёкаў. Плануецца, што будзе яна здадзена ў карыстанне пад канец наступнага года. Ачышчальня каштаваць будзе 15 мільярдаў злотых і заменіць яна дзве старыя ачышчальні: у парку і пры Лясным тэхнікуме.

**У Беластоку** пабывалі віцэ-міністр працы Рэспублікі Беларусь і адначасна галоўны інспектар працы — **Іван Селядзеўскі** і абласны інспектар працы ў Менску — **Валерый Пурко**. Беларускія госці знаёміліся са структурамі акруговай інспекцыі працы, паколькі цяпер у Беларусі ствараецца дзяржаўная інспекцыя працы (раней была саюзная) паводле еўрапейскіх стандартаў.

У Беластоку паўстала суполка **Рэгіянальнае падляшскае тэлебачанне**. У праграме суполкі — стварэнне і распаўсюджванне тэле- і радыёперадач, будова, мантаж і эксплуатацыя тэле- і радыёстанцый.

Галоўны камендант Гранічнай стражы распусціў ансамбль песні і танца пагранічных войскаў „**Граніца**". Прычынай такога рашэння была нястача фінансавых сродкаў і немагчымасць самафінансавання калектыву. „Граніца" часта выступала на Беласточчыне і заваявала папулярнасць не толькі сярод пагранічнікаў, але і сярод цывільнай публікі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"





# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### АДДЗЯЛІЦЦА -- НЕ ЖУРЫЦЦА?

Больш за тысячу чалавек, якія прыйшлі на сустрэчу выбаршчыкаў з прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі БНФ Вярхоўнага Савета Беларусі, у чарговы раз упэўніліся ў перакананасці Зянона Пазьняка, што Расея ў любым выпадку ўяўляе пагрозу сувэрэнітэту Беларусі.

Пакуль Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч устрымліваецца ад прагнозаў аб верагоднасці пранікнення грамадзянскай вайны на тэрыторыю суверэннай Беларусі, лідэр апазіцыі катэгарычна настойвае на тым, што камуністычная альбо ліберальная Расея ўсё роўна будзе мець свае геапалітычныя інтарэсы, якія знаходзяцца ў супярэчнасці з інтарэсамі заходняга суседа.

У той жа час камандаванне пагранічных войск рэспублікі запэўнівае, што глыбокае вывучэнне абстаноўкі на ўсходняй граніцы пакуль не дазваляе рабіць вывад аб неабходнасці хуткага нарошчвання сіл і сродкаў на гэтым напрамку.

Дарэчы, калі парламент Беларусі падтрымае патрабаванне апазіцыі аб закрыцці граніцы з Расеяй, гэта не толькі пагражае скасаваннем двухбаковых пагадненняў, але і абыдзецца рэспубліцы "ў капеечку". Каб перакрыць 1.100 кіламетраў граніцы з суседняй дзяржавай спатрэбіцца амаль 10 тысяч пагранічнікаў, а ў грашовым выражэнні не менш за 12-15 мільярдаў рублёў.

### ХТО КАГО АБ'ЯДАЕ, ТОЙ ТАГО І ЧАПЛЯЕ

Здаецца неверагодным, але факт: як прызнала Камісія па галоснасці Вярхоўнага Савета Беларусі, многія сродкі масавай інфармацыі, што фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту, нелаяльна ставяцца да дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, яе нацыянальнага адраджэння. "Няўдзячнымі" аказаліся праўрадавыя выданні "Советская Белоруссия", "Рэспубліка", "Белорусская нива", "7 дней". У адказе на пытанне аб пазбаўленні іх дзяржаўных датацый апошняе слова належыць Вярхоўнаму Савету рэспублікі. А ён, і гэта красамоўна сведчыць аб пазіцыі парламенцкай большасці, ужо двойчы адмаўляўся разгледзець праект Закону аб друку.

### ЯК ПАСВАРЫЛІСЯ ГЕНАДЗЬ ІЛЬІЧ З ІОСІФАМ ПАЎЛАВІЧАМ

На Беларусі з нецярплівасцю чакаюць паяўлення ў кнізе рэкордаў Гінеса імя дзяржсакратара па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы рэспублікі Генадзя Данілава.

На жаль, прызнаны рэкардсмен зойме такое пачэснае месца зусім не на падставе вялікіх дасягненняў на асноўным месцы дзейнасці: з нядаўняе пары ў дзяржсакратара новае хобі -- судовыя цяжбы з журналістамі. Спачатку гонар і годнасць Генадзя Данілава абразіла апазіцыйная "Свабода", цяпер дзяржсакратар патрабуе публічнага прабачэння ад рэдактара "Народнай газеты" народнага дэпутата рэспублікі Іосіфа Сярэдзіча.

Справа ў тым, што падчас адной з прыватных размоў Генадзь Данілаў быццам бы паведаміў І. Сярэдзічу, што ў якасці падарунка пасля завяршэння афіцыйнага візіту ў Кітай спікер парламента атрымаў мэблевы гарнітур. Станіслаў Шушкевіч у інтэрв'ю "Народнай газеце" назваў гэта "хлуснёй вышэйшага гатунку". Ну, а абураны дзяржсакратар паведаміў, што ніколі не вёў падобнай размовы і намераны дабівацца справядлівасці праз суд. Так што невялічкі скандальчык пачынае перарастаць у сварку дзяржаўнага маштабу.

### ДАРМА, ШТО НЯМА ПАСАДЫ, ГАЛОЎНАЕ -- ЁСЦЬ ПРЭТЭНДЭНТ

Хоць пра ўвядзенне прэзідэнцтва ў Рэспубліцы Беларусь пакуль толькі гаворыцца ў праекце Канстытуцыі, не толькі ў Беларусі, але і ў Канадзе знайшліся ўжо людзі, апантаныя ідэяй заняць гэту пачэсную пасаду. Паступова разгортвае перадвыбарчую кампанію і збірае пад свае сцягі прыхільнікаў граф Прушынскі, у якога, як вынікае з адкрытага ліста спадару С. Шушкевічу, пакуль шмат нядобразычліўцаў. І найперш -- Вярхоўны Савет, які не мае маральнага права прымаць Канстытуцыю будучай дэмакратычнай рэспублікі. Тым больш, што адзін з пунктаў праекта Канстытуцыі, які ўводзіць дыскрымінацыйны дзесяцігадовы цэнз пражывання ў Беларусі, накіраваны менавіта супраць асобы графа.

### ЦІШЭЙ, ІНАКШ ПАЧУЮЦЬ

Усё ў жыцці вяртаецца. Вось і ранейшая магчымасць трапіць за краты пасля тэлефоннай размовы з лепшым сябрам ужо не здаецца бязглуздзіцай пасля службовага дакумента, распрацаванага Міністэрствам унутраных спраў і Міністэрствам сувязі і інфарматыкі Беларусі.

Па ім выходзіць, што праслухоўванне службовых і асабістых тэлефонаў можа быць наладжана без адпаведнай санкцыі пракурора.

На шчасце, за акном не трыццаць сёмы год. Таму па пытанні парушэння правоў асобы распачата расследаванне.

### ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА

Натуральны прырост насельніцтва Беларусі ў апошнія месяцы пастаянна скарачаецца, але колькасць грамадзян рэспублікі няўмольна расце.

Калі напужаныя эканамічнай і палітычнай нестабільнасцю жыхары Беларусі не спяшаюцца заводзіць "лішні" рот -- колькасць немаўлят у параўнанні з мінулым годам у студзені-чэрвені скарацілася на 3,8 тысячы чалавек, дык беларусы з "гарачых" рэгіёнаў былога Савецкага Саюза лічаць за шчасце атрымаць прапіску ў спакойнай, на іх погляд, Беларусі -- толькі за апошнія шэсць месяцаў прыбыло 16 тысяч чалавек.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

 

З ДРУКУ

# PROBLEMY Z SĄSIADAMI

**ROZMOWA Z ARCYBISKUPEM BIAŁOSTOCKIM STANISŁAWEM SZYMECKIM, BISKUPEM POMOCNICZYM EDWARDEM OZOROWSKIM ORAZ KSIĘDZEM PRAŁATEM STANISŁAWEM PIOTROWSKIM.**

*- Księże Arcybiskupie, dlaczego właśnie Ksiądz, nie posiadający doświadczenia w pracy na terenach pogranicznych, został nowym pasterzem archidiecezji białostockiej?*

**Arcybiskup Stanisław Szymecki**: Myślę, że Ojciec Swięty chciał mieć tutaj, podobnie jak w Przemyślu, człowieka, który przychodzi ze świeżym, niezależnym spojrzeniem, na tę sytuację, która tu jest. Sądzę, że chodziło o to, aby przyszedł tu "człowiek skądinąd", człowiek z daleka, który może mieć nowe spojrzenie, nowe inicjatywy, podejmie nowe próby rozwiązania istniejących tutaj problemów(...)

*-- Co Księdza Arcybiskupa najbardziej zaskoczyło w archidiecezji białostockiej w sensie pozytywnym?*

**Arcybiskup Stanisław Szymecki**: Przyszedłem tu jako obcy, a jednak ze względu na to, że przysłał mnie Ojciec Święty, od razu zostałem przyjęty jako "nasz". Od razu byłem "u siebie". Tutejszy lud jest bardzo serdeczny, komunikatywny, otwarty(...)

*-- Jakie było najbardziej negatywne zaskoczenie?*

**Arcybiskup Stanisław Szymecki**: Nie mam negatywnych zaskoczeń. Wszystko jest pozytywne i wszystko trzeba podjąć. Owszem są problemy. Trzeba je rozwiązywać. Oprócz normalnego życia Kościoła, diecezji, normalnego duszpasterstwa, jest problem sąsiadowania z prawosławnymi oraz problem narodowościowy. Chodzi o Białorusinów. Nie są to jednak negatywy. Są to po prostu problemy, które same w sobie nie są negatywne.

*-- Na czym polega problem "sąsiadowania z prawosławiem", wymieniony przez Księdza Arcybiskupa?*

**Arcybiskup Stanisław Szymecki**: Chciałbym, aby wypowiedzi na ten temat udzielił ksiądz prałat Stanisław Piotrowski, który jest w tej chwili bardziej niż ja kompetentny, gdyż tu się urodził, tu mieszka i tą problematyką się interesuje.

**Ks. prał. Stanisław Piotrowski**: Prawosławnych w samym Białymstoku jest około 10-15 procent. W okolicach Białegostoku są natomiast wsie, w których prawosławnych jest więcej niż katolików. Są parafie, na terenie których jest kilka świątyń prawosławnych, a tylko jeden kościół katolicki. Jednak miejscowości takich nie jest dużo.

**Przed wojną współżycie katolików i prawosławnych układało się bardzo dobrze. Nie było żadnych scysji, nie było zatargów, konfliktów**. W czsie okupacji i w czasach Polski Ludowej problem prawosławia nie był podnoszony, gdyż cerkwie były normalnie otwarte, odbywały się nabożeństwa i tak samo wierni prawosławni, jak i katoliccy byli przez władze "tolerowani" ze względu na panujący światopogląd marksistowski. Prawosławni to przecież też chrześcijanie. Warto jednak zwrócić uwagę, że w minionych latach we władzach administracyjnych regionu prawosławni zajmowali nieraz wysokie stanowiska, byli naczelnikami, przewodniczyli radom. Trzeba powiedzieć, że tak Białystok, jak i okolice były rządzone przez prawosławnych, którzy byli wtedy ludźmi partyjnymi. Władze sprzyjały więc bardziej Kościołowi prawosławnemu niż katolickiemu. **Problem prawosławia wyrósł na dobre, kiedy odzyskaliśmy wolność. Demokracja ich uczuliła nie tylko na swoje wyznanie, ale też na kwestię odrębności państwowej. Sądzę, że pod parasolem wyznania budzi się w nich dążenie do uzyskania państwowości białoruskiej.**

*-- Czy to oznacza, że wszyscy prawosławni to Białorusini?*

**Ks. prał. Stanisław Piotrowski**: Nie, tak nie można powiedzieć. Nie można utożsamiać każdego prawosławnego z narodowością białoruską. Jest wielu gorliwych wyznawców tej wiary, którzy nie są Białorusinami. **Do roku 1989 na tych terenach nie było w ogóle Białorusinów**. Dopiero pod wpływem pewnych przywódców, obecnie trochę na siłę budzi się w części ludności świadomość białoruską.

**Bp. Edward Ozorowski**: Trzeba pamiętać o pewnych uwarunkowaniach historycznych i politycznych. Już za czasów cara Piotra Wielkiego prawosławie w Polsce było wykorzystywane do celów politycznych. Car prawosławnych uważał za swoich poddanych, to był tytuł do wtrącania się bezpośrednio w sprawy polskie. Tę samą politykę stosowali następnie komuniści, którzy co prawda u siebie cerkiew zwalczali, ale na zewnątrz wszędzie ją popierali. Moskwa prawosławnych traktowała jako swoich poddanych. W związku z tym **na wyznawców prawosławia kładzie się cień, że oni są na usługach Moskwy i tego przekonania ludziom bardzo trudno się wyzbyć, bo jest wiele różnych znaków, że tak jest rzeczywiście**. Poza tym w czasie zaborów car stosował politykę przemieszczania ludności. Podobnie zresztą czynili komuniści. Całe wsie polskie były wywożone na Sybir lub gdzieś bliżej, a przywożona była przede wszystkim ludność etnicznie rosyjska, chociaż nie tylko. Ona się w międzyczasie spolszczyła, dlatego tak trudno dzisiaj zorientować się, kim oni są, czy Polakami, czy Białorusinami, czy Ukraińcami, czy Rosjanami. Oni sami często nazywają siebie "tutejsi", bez podawania narodowości. Polacy czują się zagrożeni taką sytuacją, gdyż tu polskość jest nieustannie kwestionowana i trzeba ją nieustannie udowadniać. A ponieważ rząd tego nie widzi, Kościół musi w tej kwestii zajmować stanowisko i polskości bronić.

*-- Podobno lokalna prasa raczej wspiera prawosławnych niż katolików.*

**Ks. prał. Stanisław Piotrowski**: Nie tylko lokalna, ale również ogólnopolska. Poza tym władze w Warszawie również wspierają mniejszość. Na przykład minister Rokita przysłał do naszego Biskupa list, w którym wprost nalega, by Kościół katolicki zrezygnował ze swoich praw do klasztoru w Supraślu. W tej sytuacji zrozumiałe jest, że prawosławni wysuwają dalsze żądania i obecnie oprócz kwestii Supraśla mamy nową, podobną sprawę z Różanym Stoku.

*-- Jak wygląda sytuacja mniejszości białoruskiej na tych terenach? Czy jest ona liczna?*

**Bp Edward Ozorowski: Według biskupa Sawy w ramach prawosławia istnieją następujące narodowości: polska, ukraińska, białoruska i tak zwani "tutejsi", którzy nie przyznają się do żadnej. Narodowość ukraińska jest dość dobrze wykrystalizowana. Natomiast białoruska dopiero teraz się kształtuje.** Oni na przykład nie wiedzą, jaki jest ich autentyczny język. Ten, którym mówią na Białostocczyźnie nie jest tym, którym mówią w Mińsku. Ich kultura jest bardzo młoda. Oni są mocno zruszczeni, dlatego nie wiedzą, w którą stronę się przechylić. Boją się zarówno zrusyfikowania, jak i spolonizowania.

**Ks. prał. Stanisław Piotrowski**: Warto wiedzieć, że choć w całej Polsce w cerkwiach kazania głoszone są po polsku, tutaj wszystko jest w języku rosyjskim.

*-- Jakie Ksiądz Arcybiskup ma plany w związku z objęciem nowej diecezji?*

**Arcybiskup Stanisław Szymecki**: Są rzeczy, które trzeba podjąć natychmiast: trzeba kontynuować prace Synodu Diecezjalnego, który został otwarty przez samego Papieża Jana Pawła II podczas jego pobytu w Białymstoku. Druga sprawa, to jest koronacja obrazu Matki Bożej Miłosierdzia w naszej katedrze, którą planujemy na przyszły rok. Kolejne kwestie to na przykład założenie kolegium katechetycznego, to ewentualnie współpraca z uniwersytetem, aby nasi księża mogli podnosić kwalifikacje naukowe. **A przede wszystkim zwykła praca duszpasterska: uczyć ludzi, co to znaczy być chrześcijaninem dzisiaj, w życiu codziennym.**

**Rozmawiał:**
**KS. ARTUR STOPKA**

*"Gość Niedzielny" Nr 35, 29.08.1993*

*Інтэрв'ю з беластоцкім каталіцкім арцыбіскупам Станіславам Шымэцкім і яго супрацоўнікамі, якога фрагменты мы прадставілі чытачам „Нівы", было нядаўна надрукаванае ў каталіцкім часопісе „Gość Niedzielny". Выказванні каталіцкіх іерархаў — гэта ўжо не толькі фальшаванне гісторыі, але таксама паклёпы і абвінавачванне праваслаўных і беларусаў у здрадзе дзяржавы („oni są na usługach Moskwy"). У нармальнай дзяржаве такі закід павінен зацікавіць пракурора. Калі б аказалася, што гэта праўда, вінаватых трэба паставіць перад судом. А калі гэта толькі правакацыя каталіцкіх ксяндзоў, тады яны павінны панесці юрыдычную і маральную адказнасць за імкненне да выклікання нацыянальных і рэлігійных канфліктаў. Але ці нейкі пракурор асмеліцца паставіць такі закід прадстаўнікам „вядучай сілы народа?"*

*Паводле меркаванняў беластоцкіх іерархаў, усе мы тут — праваслаўныя і беларусы — нашчадкі расейцаў, прывезеных сюды царскімі ўладамі на месца вывезеных у Сібір палякаў. І толькі ў 1989 г. — вядома, у выніку вонкавых інтрыгаў — некаторыя пачалі называць сябе беларусамі. Нягледзячы на тое, ці была тут царская ці камуністычная польская адміністрацыя, праваслаўнае насельніцтва аставалася маскоўскай агентурай. Польскае грамадства аказалася пад пагрозай (якой, невядома). Урад да справы ставіўся абыякава, мясцовая і цэнтральная прэса нават спрыяла здраднікам і чужой агентуры. Бараніць польскасць і хрысціянства прыйшлося толькі Каталіцкаму касцёлу.*

*Не, гэта не XVII стагоддзе і гэта не жарт, гэта рэчаіснасць канца XX стагоддзя на Беласточчыне. Гэта спосаб мышлення людзей, якія маюць вырашальны ўплыў на мясцовую палітыку. Цяжка ў іх словах дашукацца хаця б ценю пашаны для іншых народаў ці веравызнанняў. Толькі прачытаўшы такое інтэрв'ю можна сабе ўявіць, адкуль выплывае крыніца ненармальнасці ў суадносінах паміж тутэйшымі палякамі і беларусамі, паміж католікамі і праваслаўнымі, адкуль у звычайных людзей раптоўна ўспыхае кашмар шавіністычнай адурманенасці. Здаўна было вядома, што нас, беларусаў, тут не кахаюць, але што так нас ненавідзяць браты хрысціяне... гэта проста неверагодна. Арцыбіскуп Шымэцкі будзе вучыць сваіх вернікаў „што гэта абазначае быць сёння хрысціянінам".*

**Рэд.**

**Заўвага**: вылучэнні ў тэксце інтэрв'ю зроблены намі.

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

*Працяг са стар. 1*

З іншых мінеральных выкапняў неабходна адзначыць пяскі і жвіры. Звычайныя жоўтыя, шэрыя ці белыя сартаваныя пяскі сутракаюцца амаль усюды і выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове дарог, цэментабетонных работах і г.д.

Найбольш вядомыя радовішчы высакаякасных жвіроў сустракаюцца каля Нарвы (плошча ў 5 га), Рагазоў (5 га) і каля Трасцянкі (плошча ажно ў трыццаць гектараў). Таўшчыня пластоў па 2 і 3 метры каля Нарвы і Рагазоў ды сем метраў каля Трасцянкі.

Каштоўным выкапнем з'яўляецца торф. Тарфянік каля вёскі Тыневічы Вялікія займае плошчу 1100 гектараў. Таўшчыня пластоў торфу ў 1,5—2,5 метра. Запасы — у 22 тысячы кубаметраў. Каля Трасцянкі тарфянікі займаюць 300-гектарную плошчу. Таўшчыня пластоў ад 0,8 да 1,2 метра. Запасы торфу ў тры тысячы кубаметраў. Тарфянікі могуць выкарыстоўвацца не толькі як таннае паліва, але і ў якасці ўгнаення на палі або падсцілкі для хатняй жывёлы. Жыхары некаторых вёсак яшчэ да I сусветнай вайны капалі добра перагніўшы торф і вывозілі яго на палі.

## КЛІМАТ

Нараўская гміна знаходзіцца ў паласе сярэдняга клімату з сярэдняй гадавой тэмпературай +7,2°С. Ападкі — ад 383 да 675 міліметраў у год. Вегетацыйны перыяд прадаўжаецца каля 7 месяцаў, пачынаючы з другой паловы красавіка. Сярэдняя сума ападкаў 595 мм у год. Такой колькасці ападкаў хапае для росту ўсіх асноўных сельскагаспадарчых культур. Але яны невыгодна размяркоўваюцца па паасобных месяцах вегетацыйнага перыяду. Найбольшая колькасць гадавых ападкаў прыпадае на ўборачны перыяд і асабліва згубна дзейнічае на ўборку сена і жыта. Таму нядрэнна было б закончыць сенакосы ў другой палове чэрвеня, а ўборку жыта і іншых зернавых культур адцягнуць на пачатак жніўня.

Туманы ў гміне выступаюць даволі часта. Бываюць яны частымі асабліва па далінах рэк Нарва і Нараўка. Пахмурных дзён у годзе тут значна больш, чым сонечных. Найбольш хмарнымі з'яўляюцца месяцы ліпень і жнівень, найменш хмарным — кастрычнік.

Дамінуюць тут цыкланальныя вятры заходняга напрамку. Яны прыносяць найбольшую колькасць ападкаў, уздзейнічаюць павышэнню тэмпературы ў халодны перыяд. Зімою магчымы антыцыкланальныя пераносы паветраных мас і тады ўстанаўліваецца сухое надвор'е з даволі нізкімі тэмпературамі. У 1956 годзе ў студзені было мінус 40°С, а ў 1953 годзе ў ліпені адзначаная максімальная тэмпература +38°С.

## РЭКІ

Большая частка рэк у Нараўскай гміне гэта невялікія ручайкі, якія не маюць, акрамя вадапояў для жывёлы, важнага гаспадарчага значэння. Толькі рака Нарва і часткова яе прыток Нараўка могуць выкарыстоўвацца сезонна ў транспартных мэтах, напрыклад, для сплаву драўніны ці будаўнічых матэрыялаў. Сцёк іх няўстойлівы, паколькі рэкі насычаюцца грунтовымі водамі і атмасфернымі ападкамі.

Галоўнай воднай артэрыяй з'яўляецца рака Нарва. Шырыня ракі ад 15 да 35 метраў, хуткасць цячэння 1,5—2 км у гадзіну. У час веснавых разводдзяў шырыня разліваў павялічваецца да 1—2 кіламетраў, займаючы ўсю даліну, а хуткасць цячэння ў русле ўзрастае да 5 кіламетраў у гадзіну. Нарва бярэ свой пачатак на тэрыторыі Беларусі сярод так званых „Дзікіх Балотаў". У шырокай Нараўскай акрузе, дзякуючы марэннай градзе, рака злучаецца ў адно русло, менш-больш там, дзе прыймае рэчку Нараўку і ў напрамку пасёлка Нарва. Даліна становіцца вузкай. У гэтых месцах рака робіць маляўнічыя звіліны, названыя „Брушкоўскімі каленамі" (ад назвы вёскі Брушкоўшчына, насупраць якой яны знаходзяцца). На ўсход пасёлка Нарва, перпендыкулярна да даліны ракі, праходзіць галоўная марэнная града, якую рака змагла прарваць і адрэзаць некалькігектарны ўзгорак — „Курган". Ён узвышаецца над узроўнем даліны ракі на 20 метраў. Выглядае сапраўды маляўніча. Яго паўночны абрывісты склон пакрыты зараснікамі з ліставых дрэў і кустарнікаў. Легенды, якія захаваліся аб ім прыцягвалі сюды ў міжваенны перыяд вучоных.

Затым у даліне ракі каля Анцутаў паяўляюцца старыцы, званыя тут „затокамі". Характэрныя рысы ракі: звілістасць русла, асіметрычнасць берагоў, з якіх адзін, высокі, заўсёды падмываецца, другі, нізкі, павялічваецца і пакрываецца лазінай. Рэкі Нарва і Нараўка прыгодныя для воднага турызму.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



 

Развражанні пасля Кангрэсу

# ДЗЕ ЯНА, БЕЛАРУСЬ?

Прачытаўшы ў "Ніве" артыкул пра І Кангрэс беларусаў свету, надумалася і я падзяліцца сваімі ўражаннямі. Прыйшлося мне быць у Беларусі ўвесь ліпень. Таму і Кангрэс быў для мяне адным з найважнейшых здарэнняў гэтага перыяду.

У Гародню прыехала я з Алесем Юзафовічам і нашымі дзецьмі. Далей на аўтобусе ў Менск. У сталіцу Рэспублікі Беларусь апынуліся мы 4 ліпеня позним вечарам. Дабраўшыя да гасцініцы "Беларусь", на жаль, нікога з арганізаратаў мы не сустрэлі. Маўчалі таксама тэлефоны ў арганізацыйным камітэце. Аставалася нам або заплаціць 35 долараў за асобу і заквартаравацца, або гуляць па Менску да поўначы ("Бацькаўшчына" плаціла за нас з 5 ліпеня). Не было над чым і думаць -- выбралі другі варыянт. Пасля прагулкі па беразе Свіслачы і вячэры ў маіх знаёмых спадарства Люды і Валодзі Грыцэўскіх (ужо 5 ліпеня) мы заквартараваліся ў гасцініцы. Алеся ў пакоі прывіталі... прусакі.

### ПЕРШЫЯ СУСТРЭЧЫ І ЎРАЖАННІ

Толькі раніцай выявілася, што мы тут не адны. У арганізацыйнае бюро прыходзіла штораз больш гасцей, каб заквартаравацца або высветліць усе пытанні, паколькі з інфармацыяй было не найлепш. Нам дадаткова дайшла праблема дзяцей, якіх везлі мы на міжнародны форум дзяцей і моладзі, які меў праходзіць над возерам Нарач. Аднак на месцы арганізатары вельмі цьмяна перакладалі выезд з дня на дзень.

З першага дня кангрэсавых мерапрыемстваў у гасцініцы чувацъ было амаль выключна беларускую мову. Ніхто не спаглядаў на цябе як на "иностранца с какой-то балтийской страны". Першы раз адчуваць сябе прыйшлося быццам бы ў нармальнай суверэннай беларускай дзяржаве. Безліч эмігрантаў з усіх куткоў свету. Увесь тыдзень кожны па-свойму перажываў сваю Беларусь.

Імпрэзаў было даволі багата, толькі ўсё гэта было, як гаворыць мая сяброўка, у "саўковым" стылі. У дадатак не спрыяла ім надвор'е. Выезд у Навагрудак на гістарычны спектакль каранацыі Міндоўга сапсаваў праліўны дождж. Такім чынам мара пабыць на замкавай гары і пабадзяцца па сталіцы Вялікага княства Літоўскага не здзейснілася. Відовішча прыйшлося глядзець у цесным Доме культуры, дзе арганізатары дбалі, каб хапіла месца перад усім беларусам з Амерыкі; апошнія, найлепш, каб выйшлі і не заміналі. Але куды пайсці, калі за вокнамі ліе дождж?

Пасля выдатнага канцэрта паехалі мы на Купалле ў Высокі Бераг. Аднак праліўны дождж мусіць не пужаў толькі тых, што мелі загад скакаць і выступаць пры вогнішчы. Замест шукаць папараць-кветку, прыйшлося нам прасядзець да поўначы ў аўтобусе, а пасля ў суправаджэнні міліцыі ад'ехаць у Менск.

### НАД НАРАЧЧУ І Ў ЗАСВІРЫ

Трэцяга дня ўрэшце едзем над Нарач. Забіраем дзяцей з надзеяй пакінуць іх там на некалькі дзён. На месцы аказалася, што гэта ніякі не міжнародны форум дзяцей і моладзі, а проста агромністы савецкі летнік, дзе чулася адзіную замежную мову -- рускую. Пасля абеду ў сталоўцы нашым дзецям адхацелася тут аставацца.

Карыстаючыся нагодай я з сяброўкамі Ірай і Марысяй выбраліся ў недалёкі Засвір -- апошнюю парафію ксяндза Кастуся Стаповіча. На месцы аказалася, што касцёл у вельмі дрэнным стане! На шчасце, вядзецца рамонт. Ксяндза аднак мы не засталі, толькі што перад намі ад'ехаў у Свір. Даведаліся мы толькі, што вядзе службу па-польску малады ксёндз з Варшавы Войцек (як называюць яго мясцовыя). Бабулька Станіслава Кісель (1907 года нараджэння) памятае ксяндза Стаповіча і яго брата Альбіна. Цікава, ці ведае аб гэтым беларускім асяродку малады ксёндз з Варшавы? На жаль, з кляштарных забудаванняў, дзе жыў ксёндз Стаповіч амаль нічога не засталося, усё разбурана. Як казала бабуля Стася, людзі цягалі адгэтуль цэглу на што ім толькі было трэба. З сумам выязджалі мы з Засвіра і з надзеяй, што на касцёле, побач з дошкай пра помнік архітэктуры, паявіцца і дошка, прысвечаная вялікаму патрыёту -- ксяндзу Кастусю Стаповічу.

### ПЕРШЫ КАНГРЭС

Назаўтра, 8 ліпеня, пачынаецца І Кангрэс беларусаў свету ў Тэатры оперы і балета. Так званы "Оперны тэатр" запоўнены быў амаль да апошняга месца. Паводле некаторых звестак, было 1200 удзельнікаў. Выступленні ў большасці мітынговыя, эмацыянальныя, насычаныя ўспамінамі пра Беларусь старэйшага пакалення беларускай эміграцыі. Прамаўляў таксама спікер парламента РБ Станіслаў Шушкевіч і старшыня БНФ Зянон Пазьняк (хаця афіцыйна БНФ не прымаў удзелу ў кангрэсе).

На другі дзень праца "круглых сталоў". Зноў, здаецца, мала канструктыўных прапаноў. Але калі хто хацеў паказацца і меў ахвоту выказаць свае думкі, меў на гэта поўнае права і магчымасці.

Мяне і Антона Міраповіча Валодзя Пац забраў у рэдакцыю "Беларускай маладзёжнай". Тэлефанавалі да нас слухачы і пыталі, як гэта мы, жывучы па-за межамі Беларусі адчуваем сябе беларусамі і валодаем беларускай мовай.

На выстаўцы "Беларусы замежжа", адкрытай у былым Інбелкульце (Інстытуце беларускай культуры) сярод розных выданняў дарма я шукала сярод беларускіх кніжак з Польшчы БАСаўскіх "Сустрэчаў", "Навін" БДА ці "Czasopisa". Былі там толькі выданні з часоў БГКТоўскай манаполіі.

На сустрэчу па інтарэсах трапіла я ў ліку гасцей клуба "Спадчына". Уражанні асталіся ў мяне такія, як у няпрошанага госця.

Апошні дзень Кангрэса быў падсумаваннем працы -- зноў у зале Опернага тэатра. Адбыліся таксама выбары ўлад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Старшынёй Рады "Бацькаўшчыны" была выбрана на 4 гады спадарыня Ганна Сурмач. Толькі некалькі дзён пасля Кангрэса спаткаўшыся з ёю, я ўбачыла яе стомленасць сённяшнім днём і заклапочанасць будучыняй.

За тры дні Кангрэса прыйшлося мне спаткацца з многімі замежнымі знаёмымі і пазнаёміцца з новымі беларускімі патрыётамі, паглядзець новыя выданні і беларускія народныя вырабы.

А за мурамі Опернага тэатра чакала чалавека нармальная савецкая рэчаіснасць: пустыя, брудныя крамы, руская мова і г.д.

### ПАСЛЯ КАНГРЭСУ

Кампазітар Яўген Паплаўскі (пляменнік ксяндза Глякоўскага) запрасіў нас на заканчэнне гадавой працы Беларускай капэлы. Мы мелі нагоду бачыць і слухаць яе сёлета ў Гданьску. На малым канцэрце прысутны таксама быў Гай Пікарда з Лондана. Даўняя музыка дзейнічала як бальзам на нашы душы. А калі яшчэ Віктар Скарабагатаў праспяваў Сыракомлевага "Паштальёна", нічога ўжо больш не хацелася. З Жэнем Паплаўскім я спаткалася яшчэ раз, каб паглядзець альбом ксяндза Глякоўскага, знойдзены пад страхой у бабулі на Гродзеншчыне. Яўген адшуквае забытыя кампазіцыі і ўводзіць іх у рэпертуар Беларускай капэлы.

13 ліпеня мяне і Мацея Канапацкага запрасіў у Беларускае культурнае аб'яднанне татар-мусульман "Аль-кітаб" Ібрагім Канапацкі. Прыйшлося

☞ *Працяг на стар. 10*




*Удзельнікі Кангрэсу перад Тэатрам оперы і балета.* **Фота М. Лукшы**

# ЗАГІНУЎ ЗА НАРОДНУЮ СПРАВУ?

Падобна да таго, што забойству старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Дзмітрыя Арцымені ўжо нададзены "статус" антыдзяржаўнага тэрарыстычнага акта. Прынамсі, такую адзнаку гэтай крывавай падзеі даў сам прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч.

Больш таго, як паведаміў спадар Кебіч, начальнік гарадзенскай міліцыі таксама атрымаў па тэлефоне пагрозу ад мафіі: маўляў, наступная куля -- твая. З гэтай нагоды ў рэспубліцы тэрмінова ствараецца спецыяльная служба аховы дзяржаўных асоб ніжэйшага рангу -- кіраўнікоў мясцовых саветаў.

Што ж, магчыма і сапраўды такое падраздзяленне патрэбна, аднак забойства Дзмітрыя Арцымені для гэтага не самы ўдалы повад. Бо як сведчаць некаторыя факты, гэтае злачынства нагадвае, хутчэй за ўсё, звычайныя мафіёзныя разборкі. Так што атрымліваецца амаль анекдатычная сітуацыя: новаўтворанае падраздзяленне павінна абараняць аднаго мафіёзі ад другога. Зрэшты, звернемся непасрэдна да фактаў крывавага злачынства ў Гародні.

Дык вось. Адразу пасля смерці Дзмітрыя Арцымені ў яго службовым сейфе следчыя знайшлі агромістую /па нашых сённяшніх мерках/ суму грошай -- трыццаць тысяч долараў ЗША, некалькі тысяч дойчмарак, сотні тысяч рублёў. Нават старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч прызнаўся, што каб зарабіць такія грошы, ён пры цяперашнім сваім акладзе павінен працаваць каля трыццаці гадоў. А што казаць пра звычайных смяротных? Ім такія грошы і не сніліся. Дзе ж іх узяў гарадзенскі "губернатар"? Дакладны адказ на гэтае немалаважнае пытанне следчыя органы пакуль даць не могуць. Хаця пэўныя версіі ёсць. Вось адна з іх. Незадоўга да сваёй смерці Дзмітрый Арцымень спрабаваў атрымаць у Савеце Міністраў дазвол на экспарт за мяжу дваццаці цыстэрнаў жоўтага фосфару коштам у адзін мільён долараў. Цягнік з жоўтым фосфарам /які, дарэчы, з'яўляецца стратэгічнай сыравінай/ быў затрыманы на беларуска-польскай мяжы яшчэ ў ліпені гэтага года. Каму з заходнееўрапейскіх бізнесменаў прызначаўся каштоўны груз, следства дакладна высветліць так і не змагло. Кантрабанду канфіскавалі на карысць дзяржавы і перадалі ў распараджэнне... Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта. І тут Дзмітрый Арцымень прымае рашэнне перадаць жоўты фосфар адной з мясцовых фірмаў і накіроўвае афіцыйную паперу ў Менск з просьбай выдаць гэтай фірме ліцэнзію на вываз грузу ў Швейцарыю.

Такім чынам першапачатковыя гаспадары жоўтага фосфару засталіся ні з чым, а шчаслівая гарадзенская фірма, што атрымала ліцэнзію на экспарт каштоўнай сыравіны, дзякуючы намаганням самога "губернатара", фантастычна ўзбагачалася. Хто ведае, магчыма, грошы, якія былі знойдзены ў службовым сейфе нябожчыка, і былі той самай падзякай ад удзячных камерсантаў, што атрымалі жоўты фосфар. Ну, а пакрыўджаныя магчыма расплачваліся куляй. Праўда, як і кожная версія, гэтая таксама не можа прэтэндаваць на ісціну ў апошняй інстанцыі. Апроч таго, у Арцыменяў былі і іншыя крыніцы звышпрыбыткаў. Напрыклад, жонка забітага Галіна Арцыменя з пачатку года ўзначаліла ў Гародні прыватную ювелірную краму "Святой Георгій".

Аднак "камерцыйныя" матывы забойства следства пакуль не жадае заўважаць, заявіўшы аб палітычным характары злачынства. Што выглядае нават смешна. Бо ў Беларусі, дзякуй Богу, няма ніякага ўзброенага палітычнага супрацьстаяння. Затое палітычная афарбоўка забойства вельмі імпануе тым, хто знаходзіцца зараз пры ўладзе. А як жа інакш. Хіба можа фігура такога рангу як Дзмітрый Арцыменя быць замешана ў сувязях з крымінальнымі бізнесменамі? Так, чаго лепшага, і на кіраўніцтва ўрада можа ўпасці цень падазронасці.

Дарэчы, да гэтага часу следчыя так і не "здагадаліся" правесці вобыск у хаце нябожчыка. Крый Божа, і там знойдуцца неймаверныя сумы грошай альбо якія-небудзь кампраметуючыя паперы. Што тады растлумачыш людзям? А так можа яшчэ хтосьці ў Беларусі і паверыць, што Дзмітрый Канстанцінавіч Арцыменя загінуў за народную справу.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

*Вечна светлы і вечна дужы,*
*Вечна юны, як наша зямля.*
*Мы табой ганарымся — і плачам,*
*Мы нясем цябе ў сэрцы праз дым.*

*(У. Караткевіч)*

Што такое для нас, беларусаў, імя Максіма Багдановіча? Мы прызвычаіліся чуць: нашы класікі — гэта Купала і Колас. Але імя Багдановіча стаіць поруч з імі, бо ён — адзін з трох волатаў новай беларускай літаратуры. Памёршы ў 26 гадоў, ён навечна застаўся ў нашай памяці як вялікі паэт.

Свядомае імкненне да адраджэння сусветнай славы беларускага краснага пісьменства кіравала паэтам. На працягу двух апошніх стагоддзяў наш народ фактычна быў пазбаўлены ўласнай інтэлігенцыі, гістарычнай памяці. „Тутэйшымі” звалі сябе нашыя сяляне. „Грубай і мужыцкай” палякі і рускія называлі нашую беларускую мову...

У вершы „Народ, Беларускі Народ!”, Максім Багдановіч пісаў:

*Народ, Беларускі Народ!*
*Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі з ярма*
*І душу тваю абакралі, —*
*Ў ёй нават мовы няма.*
*Збудзіўшысь ад грознай бяды,*
*Ўвесь поўны смяротнай жуды,*
*Ты крыкнуць не вольны: „Ратуйце!”*
*І мусіш ты „Дзякуй” крычаць.*
*Пачуйце жа гэта, пачуйце,*
*Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!*

Максім Багдановіч нарадзіўся ў Менску, дом гэты стаяў каля цяперашняга сувораўскага вучылішча, Траецкага прадмесця. Бацька Адам Ягоравіч тады займаўся старажытным беларускім фальклорам, вывучаў язычніцкія міфы.

У пяць гадоў Максім церпіць гора: памірае маці, горача любімая сынам. Бацька пераязджае ў Расію, у Ніжні Ноўгарад. Якія ж таемныя струны душы павінны былі стала гучаць, каб вырас з адарванага фізічна і духоўна ад Беларусі хлопчыка вялікі беларускі паэт? Бо нават бацька казаў юнаму Максіму: „Што табе гэтая беларусіка? Правінцыялізм”. Але зборнікі беларускіх песень і казак, бацькавы зборнікі, супярэчылі ягоным словам. І Максім вывучаў па іх родную мову... Першыя беларускія вершы ён піша ў адзінаццацігадовым узросце. Рвецца на Радзіму, але бацька пасылае яго лячыцца ў Башкірыю. Толькі ў 1911 годзе пашчасціла Максіму ступіць на родную зямлю, пачуць жывую беларускую мову. Тут Максім быў вельмі лагодна сустрэты змагарамі за беларускую справу і сябрамі, бо яго ўжо добра ведалі па вершах, што ўжо друкаваліся на старонках „Нашай нівы”. Імкнучыся ўявіць сабе Радзіму, Багдановіч малюе краявіды, беларускую прыроду, выліваючы ў вершах тугу.

*Краю мой родны! Як выкляты богам —*
*Столькі ты зносіш нядолі.*
*Хмары, балоты... Над збожжам убогім*
*Вецер гуляе на волі.*
*Поруч раскідаліcь родныя вёскі.*
*Жалем сціскаюцца грудзі! —*
*Бедныя хаткі, таполі, бярозкі.*
*Ўсюды панурыя людзі...*
*Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,*
*Вынеслі моцныя спіны;*
*Шмат іх прымусілі выцерпець мукі*
*Пушчы, разлогі, нізіны.*
*Кінь толькі вокам да гэтага люду —*
*Сціснецца сэрца ад болю:*
*Столькі пабачыш ты гора усюды,*
*Столькі нуды без патолі.*
*Песня мая, як удовіна сына,*
*Янку, каханне згубіла;*
*Там, дзе панура схілілась каліна,*
*Беднага хлопца магіла.*
*Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе*
*Сэрца навін не пачуе.*
*Сціснула гора дыханне ў народзе,*
*Гора усюды пануе.*
*Хваляй шырокай разлілась, як мора,*
*Родны наш край затапіла...*
*Брацця! Ці зможам грамадскае гора?*
*Брацця! Ці хваце нам сілы?!*

Народ без гістарычнай памяці перастае быць народам. Максім, жывучы на чужыне, добра гэта разумеў. Ён чытаў пра нашу гісторыю вельмі шмат. І, натуральна, марыў пра той час, калі Грунвальдская перамога, мужныя беларускія рыцары, колішняя магутная Беларуска-Літоўская дзяржава будуць клікаць сучаснікаў на здзяйсненні ў імя Айчыны.

А шмат у каго з сучаснікаў складвалася ўражанне, што беларускае — гэта толькі вясковае. За два стагоддзі чужаземных уплываў вышэйшыя класы здрадзілі Радзіме, парабіўшыся палякамі або рускімі. Толькі просты, сярмяжны народ рупна захаваў сваю еднасць і мудрасць — у постаці мовы з яе прыказкамі, фальклору з яго легендамі. Таму і былі нашы новыя песняры — Багушэвіч і Купала — паэтамі „вясковымі”. Але ж горад, гарадская культура — неад'емная частка нармальнага жыцця нацыі. Максім упершыню ў новай беларускай літаратуры піша нізку вершаў пра беларускі горад.

*Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!*
*Вір людскі скрозь заліў паясы*
*тратуараў,*
*Блішчаць вокны, ліхтарні ў гары*
*зіхацяць,*
*І гараць аганьком вочы змучаных*
*твараў!*
*А завернеш ў завулак — ён цесны,*
*крывы;*
*Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх*
*будынкаў;*
*Між каменнямі — мох і сцяблінкі*
*травы,*
*І на вежы, як круглае вока савы,*
*Цыферблат — пільны сведка мінулых*
*учынкаў.*
*Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сняць*
*Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы,*
*Гук хады адзінокай здалёку чуваць,*
*Часам мерныя ўдары звана задрыжаць*
*І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай*
*званіцы.*
*Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!*
*Па загаду бурмістра усе, як належа,*
*Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...*
*Варта вулкай прайшла... І не спім*
*мы адны —*
*Я ды чорны кажан, што шнуруе*
*ля вежы.*

Вільня — сталіца Вялікага княства Літоўскага, сведка былой магутнасці — натхняла нашага паэта на стварэнне вершаў пра гісторыю. Ад Усяслава і Ізяслава, герояў „Слова”, ды прыгожага Слуцка — такі дыяпазон мінуўшчыны ў цыкле „Старая Беларусь” Максіма Багдановіча.

*Ізяслаў, сын Васількоў,*
*Даўнымі часамі*
*Аб літоўскія шаломы*
*Пазваніў мячамі;*
*Адняў славу у свайго*
*Дзеда, у Ізяслава,*
*І улёгся нерухома*
*На траве крывавай*
*Пад чырвонымі сваімі*
*Роднымі шчытамі,*
*Ўвесь іссечаны, ізбіты*
*Ворагаў мячамі.*
*Усхапіў ён тую славу*
*І прад смерцю кажа:*
*„Скрыдлы птах тваю дружыну*
*Прыадзелі, княжа,*
*І звяры кроў палізалі...”*
*У баі крывавым*
*Не было ні Усевалода,*
*Ані Брачыслава.*
*Ураніў самотна з цела*
*Ён душу ўдалую*
*Цераз пацерку на шыі,*
*Цераз залатую.*
*Засмуцілася вясёласць,*
*Песні замаўкаюць,*
*І жалобна, сумна трубы*
*У Гародні граюць.*

Францыск Скарына першы ў свеце пераклаў Біблію на нацыянальную мову і выдаў яе. Пісьмовых дакументаў беларускай старажытнасці больш, чым у якога іншага славянскага народа. Выдатны знаўца чалавечага характару, Багдановіч умеў ужывацца ў вобраз прадстаўніка кожнай эпохі, перадаць подых часу. Асабліва балюча ўспрымаў паэт разрыў паміж патрыятычным ідэалам мінуўшчыны і ягонай сучаснасцю. Заклік, крык душы адданага патрыёта гучыць, ірвецца, б'ецца новым рытмам у адным з лепшых вершаў „Пагоня”.

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*
*Ў белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*
*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*
*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі у здагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*
*Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцмі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*
*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*
*Усё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

Максім Багдановіч вырашыў для сябе, што жыццё ён прысвеціць адбудове аўтарытэту беларускай літаратуры. Яго вершам, дзе кожнае слоўца выверана, уласцівая надзвычайная музычнасць. І дагэтуль найпрыгажэйшым застаецца яго раманс „Зорка Венера”, музыку да якога напісаў С. Рак-Міхайлоўскі.

Творы Багдановіча часта спявае амерыканскі бард беларускага паходжання Багдан Андрусішын — Данчык. Ягоныя бацькі падчас апошняй вайны былі вывезены ў Германію. Багдан нарадзіўся ў ЗША, жыве ў Нью-Йорку. Яму 35 гадоў. З маленства гаворыць па-беларуску, спявае народныя песні і песні сучасных беларускіх кампазітараў. У Амерыцы выйшла некалькі ягоных пласцінак з запісам беларускіх песень і песень іншых народаў свету. У 1989 годзе ўпершыню гасцяваў ён у Беларусі.

Толькі эмігрант найлепш мог адчуваць змест „Эмігранцкай песні” Багдановіча.

*Ёсць на свеце такія бадзягі,*
*Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта.*
*Ім прыемны стракатыя сцягі*
*Караблёў акіянскага порта.*
*І няма ім каго тут пакінуць,*
*Бо нікога на свеце не маюць.*
*Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —*
*Аднаго яны моцна жадаюць:*
*Пабываць у краёх незнаёмых,*
*Ды зазнаць там і шчасця і гора,*
*І загінуць у хвалях салёных*
*Белапеннага сіняга мора.*
*Але мы — не таго мы шукаем,*
*Не таго на чужыне нам трэба.*
*Не рассталіся б мы з нашым краем,*
*Каб было дзеля нас у ім хлеба.*
*І на вуліцы пад грукат, пад гоман,*
*Дзе натоўп закруціўся рухавы,*
*Нам маячыцца вёсачка, Нёман*
*І агні партавыя Лібавы.*

Зусім маладым памёр вялікі паэт Максім Багдановіч. Ён пакінуў пасля сябе адзіную кніжку вершаў „Вянок”, якая нібы асвятляла яго апошнія дні на чужыне.

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

**СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН**

# CO JEST GRANE?

☛ *Працяг са стар. 1*

**Леанкевіч, Тамаш Амбражэвіч і Васілёк Сліўко.** Інструктарам вучняў была **Аліна Пахвіцэвіч.**

Пераглядаючы спецыяльны бюлэтэнь, у якім знайшоўся глабальны падлік кашалінскага конкурсу, насоўваецца некалькі рэфлексій. Перш за ўсё тое, што не ўсе ваяводствы дайшлі да фіналу. Падругое -- артыстычны "радавод" удзельнікаў. Сярод фіналістаў пераважалі вучні апошніх класаў пачатковых школ (VII і VIII), якія свае веды ў галіне мастацтва здабывалі не ў школьных формах адукацыі, а ў гарадскіх дамах культуры, палацах моладзі, прыватных пластычных майстэрнях і г. д. У гэтым кантэксце тым больш адметнай явіцца перамога вучняў з бельскай школы н-р 3. Яны свае веды здабывалі ў рамках неадплатнага пластычнага гуртка ў сваёй школе.

У нашай школе, адзначыў дырэктар Васіль Ляшчынскі, не першы раз вучні даходзяць да фіналу ў агульнапольскіх конкурсах ды бяруць там адметныя месцы. Цяжка ўжо цяпер згадаць усе тыя краёвыя пластычныя імпрэзы, але варта звярнуць увагу, што нашы вучні двойчы заваявалі бронзавы медаль на міжнародным форуме -- раз у Фінляндыі, а раз у Японіі. Не менш адметнай галінай з'яўляецца ў нас лёгкая атлетыка. Калі ідзе пра хлопцаў, то моцных на іх няма -- у мінулым годзе ўзялі яны першае месца ў ваяводстве. З дзяўчатамі па-рознаму бывае -- раз здабываюць першае, а іншым разам -- другое месца. Але вось гімнастычнай залы "тройка" так і не мае. Будуецца яна ўжо шэсць гадоў пры фінансавай падтрымцы бацькоў і бельскіх прадпрыемстваў. Кураторыя асветы, адзначыў дырэктар Ляшчынскі, трохі нам дапамагае, але дапамога тая непамерная з нашымі патрэбамі. Для канчатковага завяршэння інвестыцыі (гімнастычная зала, агароджа, паркінг, новыя кабінеты для пластыкі, інфарматыкі і беларускай мовы) не хапае двух мільярдаў злотых. Апошнім часам кіраўніцтва школы разам з бацькамі і бацькоўскім камітэтам зрабілі для вучняў 200-метровую бегавую дарожку. Усе працы і матэрыялы каштавалі каля 250 мільёнаў злотых, але дзяржаўнай залатоўкі ў гэтым не знайшлося.

І сапраўды, у актуальнай асветнай палітыцы цяжка дашукацца зерня рацыянальнасці. Надалей абавязвае прынцып, які можна было б назваць "ураўнілаўкай" мінулай эпохі. Усе школы трактуюцца аднолькава. Як бы ты ні стараўся, гаворыць дырэктар бельскай "тройкі", якіх вынікаў ты б ні дабіваўся -- прамоцыі твайго поспеху з боку асветных улад няма. Калі нешта такое будзе цягнуцца і надалей, то гэтага Янку Музыку раней, ці пазней, але напэўна мы згубім. Штодзённая практыка пераконвае аднак, што і ў цяжкай для асветы сітуацыі кураторыі маюць фінансавыя сродкі. Прыкладам можа тут быць беластоцкая школа н-р 32, дзе будуецца спартыўны комплекс -- гімнастычная зала і басейны, між іншым. Удзел Кураторыі асветы ў гэтай інвестыцыі складае адну трэцюю ўсіх коштаў.

Януш Корвін-Мікэ ў сваёй выбарчай кампаніі прапагандаваў лозунг зраўнання нацыянальных меншасцяў з палякамі, не ўзвышання іх у правах. Калі б так сталася, сцвердзіў дырэктар Васіль Ляшчынскі, то я быў бы шчаслівы, бо вылучанне нацыянальных меншасцяў, якое маем цяпер -- яно не ў той бок, як гэта Корвіну-Мікэ ўяўляецца.

У наступным годзе прыпадае 50 гадавіна Пачатковай школы н-р 3 і Ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. У абедзвюх школах згодна адзначаюць, што нейкая датацыя ім спатрэбілася б, бо тады святкаванне гадавіны можна было б спалучыць з перадачай ва ўжытак гімнастычнай залы і новых дыдактычных кабінетаў. Ці так станецца? На асабістую думку аўтара, кіраўніцтва школы, бацькі і бацькоўскі камітэт усё-такі больш спадзяюцца на свае рукі і сваю ініцыятыву.

**АЛЕСЬ МАКСІМЮК**

## ДАРАГАЯ „ЗОРКА!”

Пішуць табе вучні пятага і шостага класаў з Пачатковай школы ў Дашах.

Хочам расказаць табе пра сустрэчу, якая адбылася дваццаць трэцяга верасня (чацвер) з Янкам Целушэцкім. Усе вучні нашай школы сабраліся ў геаграфічным кабінеце. Калі ўвайшоў у залу наш госць, мы яго прывіталі гучнымі апладысментамі. Пісьменнік расказваў нам пра сябе, пра тое, як пачаў пісаць апавяданні, пра сваю сувязь з Ляўковам, чытаў свае апавяданні, паказваў часопісы, дзе яны друкаваліся.

Потым вучні распытвалі госця пра розныя справы. Найбольш цікавіў усіх яго „самаход” і прыгоды з ім звязаныя. Добра было б, каб спадар Целушэцкі пра сваю аўтамашыну напісаў апавяданне.

Дзяўчынкі падзякавалі пісьменніку за прыезд і ўручылі яму кветкі — астры і вяргіні. Мы вельмі рады, што ўсе так прыемна правялі гэты дзень.

Вучні з Дашоў



*Выступаюць дзяўчаты з ласінкаўскай школы.* Фота М. Лукшы

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## У РЭДЗЬКУ

Для гульні чым больш дзяцей, тым лепей. Могуць удзельнічаць да трыццаці чалавек. Перш за ўсё з удзельнікаў выбіраецца матка. Потым адзін хлопчык садзіцца на зямлю, другі садзіцца ў яго паміж каленяў, у гэтага наступны і г. д., і ўсе трымаюцца адзін за аднаго рукамі. Матка, узяўшы палку, бегае на ёй верхам вакол рада дзяцей — стана — і гаворыць:

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла пані рэдзькі!

А тыя адказваюць ёй:

— Яшчэ толькі пасадзілі!

Тады матка зноў пытае:

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла пані рэдзькі!

Дзеці адказваюць:

— Яшчэ толькі ўзышла!

Потым на просьбы маткі гавораць:

— Толькі яшчэ паскародзілі!

— Яшчэ не паспела!

Нарэшце на пятую просьбу гавораць:

— Вырві сабе адну!

Тады матка пачынае вырываць з рада крайняга хлопчыка, таго, які садзіўся апошнім. Таварышы моцна трымаюцца адзін за аднаго, і матцы вельмі цяжка вырваць рэдзьку з стана. Вырваўшы рэдзьку, матка адводзіць яе ўбок і зноў прыязджае да стана.

— Дзілінь-дзілінь! Прасіла пані рэдзькі!

— А дзе тую падзела?

— А ехала цераз масціцішча, сустрэла ваўчышча, узяла дый кінула!

— Ну, вырві сабе адну.

Так гульня паўтараецца да таго часу, пакуль на стане застанецца адзін хлопчык.

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## БАРЫСАВЫЯ КАМЯНІ

Гэта помнікі археалогіі і эпіграфікі, вялізныя валуны з высечанымі на іх крыжамі і надпісамі XII стагоддзя, у якіх упамінаецца імя Барыса („Господи помози рабу своему Борису”). У народзе такія камяні завуцца Барыс, Барыс-Хлебнік, Пісанік, Пісар, Барыс-Глеб, Барысаглебскі і інш.

Пяць Барысавых камянёў вядомы ў рэчышчы Заходняй Дзвіны: адзін у Полацку, тры ў Дзісне і адзін у Друі. Зімой 1887/88 года адзін з дзісенскіх камянёў з надпісам „Сулібор хрест” быў падняты з ракі і адвезены ў Маскву, дзе зараз захоўваецца ў музеі-запаведніку „Коломенское”. Полацкі Барысаў камень у 1981 годзе падняты з ракі і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора. Два дзісненскія камяні былі ўзарваны ў канцы 30-ых гадоў нашага стагоддзя. У рэчышчы захаваўся толькі расколаты друйскі камень (пры ўпадзенні ракі Друйкі ў Заходнюю Дзвіну). Лічыцца, што надпісы і крыжы былі высечаны ў час вялікага голаду ў пачатку мая 1128 года ў дні барысаглебскіх аграрных святаў з мэтай асвяціць старажытныя месцы культаў. Імя Барыса звязваецца з імем полацкага князя Барыса Усяславіча, які правіў са жніўня 1127 года па люты 1129 года.

Два Барысавых камяні вядомы на сушы: Высокі Гарадзец (Сенненскі раён) і Дзятлава (Аршанскі раён). Камень каля вёскі Высокі Гарадзец уяўляў сабой амаль квадратную пліту. На ім высечаны васьміканцовы крыж і па краях надпіс „Господи помози рабу своему Борису”. Сярод мясцовага насельніцтва ён зваўся „Кравец” або „Сцяпан”. У 1936 годзе камень быў узарваны і рэшткі яго вывезены на будаўніцтва магістралі Менск — Масква. Надпіс на камені з Дзятлава адносіцца да 1171 года. У народзе помнік вядомы як Рагвалодаў, Барысаглебскі або Аршанскі камень.

ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ

## ПРА ХЛОПЧЫКА, ЯКІ НЕ ХАЦЕЎ ІСЦІ Ў ШКОЛУ

Заўсёды, калі большыя дзеці першага верасня ішлі ў школу, малы Алеська казаў:

— А я вось ніколі ў школу не пайду!

— Чаму? — пыталі ў яго бацькі і бабуля.

— У школе нецікава. Сядзець трэба, слухаць настаўнікаў...

— Прыйдзе твой час, то пойдзеш! — смяяліся старэйшы брат і сёстры. — Усе людзі ходзяць або хадзілі ў школу.

— Не, не! — злаваўся Алесік. — Хачу — малюю, хачу — сплю, хачу — з сябрамі гуляю, але ніхто мяне да нічога не прымусіць!

Прыйшла пара ісці Алесіку ў „нулявы” клас. Колькі плачу было, колькі ляманту!

Калі выхавацельніца пачала распытваць дзяцей, як яны сябе адчуваюць і ці хочацца ім хадзіць у школу, усе пачулі Алесеў плач!

— А што гэта такое? Хлопец плача! — пачалі смяяцца хлопчыкі.

— Чаму ты, Алесік, плачаш? — запыталася настаўніца.

— Дома было так добра, — праз слёзы прамовіў хлопчык, — а тут трэба сядзець амаль цэлы дзень...

— Гэта не так доўга, — пацешыла настаўніца. — Два дні па чатыры гадзіны, а тры дні — па пяць, а ў суботу і нядзелю ж у школу не прыходзім. А вось, паглядзі, якія ў нас ёсць цацкі...

Настаўніца адчыніла шафу з дапаможнікамі.

— Ой, ёсць у вас кубікі „лега”! — уцешыўся малы.

На другі дзень Алесік не мог дачакацца, каб пабегчы ў школу.

— Мы сёння ў школе малявалі, як буслы ляцяць у вырай, — паведаміў маме, калі прыйшла забраць яго дадому.

Ужо не плакаў, ідучы ў школу. Радасна туды бег!

Найбольш быў рады, калі пачалі знаёміцца з літарамі.

ІРЭНА САЛАВЕЙ

*Вершы Віктара Шведа*

### НАВОШТА НАМ МАСТЫ?

Настаўніца спытала Пецю:
— Старайся адказаць нам ты,
Навошта людзі ва ўсім свеце
Будуюць розныя масты?

— Патрэбныя яны, магчыма, —
Пецю тут выручыў Адам, —
Свабодна каб магла пад імі
Пераплываць заўжды вада.

### КАМЕННЫ ВЕК

Настаўнік пра каменны век
Расказвае на ўроку дзецям:
— Ва ўмовах цяжкіх чалавек
Тады пакутаваў на свеце.

З каменяў людзі шмат прылад
Рабілі ўласнымі рукамі...
Тут раптам запытаў Кандрат:
— І тэлевізары таксама?

### ГУЛЬНЯ Ў ВАЙНУ

Кліча мама сына з панадворка:
— На абед ужо пара, Ягорка!
— Не магу я, мама дарагая,
Мы ж тут у вайну гуляем.

Я ў атаку іду праз хвіліну
І магчыма, што нават загіну!..
— Дык дазволь забіцца з аўтамата
І вяртайся хуценька дахаты.

### РЫГОРКА ПЛАЧА ГОРКА

У парку седзячы Рыгорка
Чамусьці плача надта горка.
— Чаго ты плачаш, небарака?
— Загінуў недзе мой сабака.

— Сабака ўжо напэўна ў хаце,
Не варта дарма слёзак траціць...
— Мяне ўсе хочуць супакоіць,
А што тут станецца са мною?

### МАЎЧАННЕ — ЗОЛАТАМ

У хаце небывала гаманліва,
Расказвае сям'я свае сакрэты.
У крэсле тата, заўсягды маўклівы,
Ізноўку твар хавае за газетай.

Сваёй матулі задае пытанне
Удумлівая незвычайна Ната:
— Калі сапраўдным золатам маўчанне,
Тады чаму наш тата — небагаты?

### ЦІ ДАЕ КАРОВА МАЛАКО?

Татулька ўпершыню дачку адвёз
Падчас канікул да бабулі ў вёску.
Унучку зацікавіў бабкі лёс,
Кароўку яна пасла на палосках.

— Няпраўда, што карова малако
Дае ахвотна, — сцвердзіла Людміла. —
Я бачыла, бабуленька рукой
Яго заўжды выцягвала насілу.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Малы Ваня атрымаў новы веласіпед. Ганарыста ездзіць на ім паміж блёкамі і крычыць маці, якая стаіць на балконе:

— Глядзі мама, еду, трымаючыся адной рукою!

Пасля некалькіх хвілін:

— Глядзі, езджу без трымання руля!

Мінула яшчэ некалькі хвілін:

— Глядзі, мамачка, еду без зубоў!

* * *

На ўроку біялогіі настаўнік пытае Ваню:

— Колькі ног у каня?

— Восем.

— Як — восем?

— Вельмі проста: дзве пярэднія, дзве заднія, дзве левыя і дзве правыя.

Прыслаў АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

## ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА (9)

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

— Я не магу пакінуць тут гэтае няшчаснае дзіця, — сказаў прынц сваім афіцэрам. — Нехта, відаць, наўмысна завёў яе ў гэты лес і кінуў. Яна, напэўна, ахвяра нейкага злоснага ашуканства. Але як яе можна адсюль забраць, каб не пабудзіць?

— Прынц, — сказаў яму галоўны мысліўца Губэр, — мы маглі б зрабіць з галля насілы і занесці на іх дзяўчыну ў які-небудзь заезны двор па суседстве. А вы тым часам маглі б паляваць далей.

— Ты ўсё добра прыдумаў, дарагі Губэр, — ухваліў прынц. — Аддавай загад! Няхай зробяць насілы і на іх пакладуць дзяўчыну, але вы панесеце яе не ў заезны двор, а да мяне ў палац. Гэтая асоба, як відаць, знатнага роду. І апроч таго, яна прыгожая, як анёлак. Я сам буду сачыць, каб ёй прыслугоўвалі, як гэта належыць яе сану.

Губэр з афіцэрамі хутка зрабілі насілы, а прынц паслаў на іх сваю накідку і акуратна паклаў на яе Разалі, якая па-ранейшаму спала. Якраз у гэтую хвіліну Разалі, напэўна, прысніла сон, яна ўсміхнулася і шэптам прамовіла: „Бацька, мой бацька!.. Ты будзеш уратаваны!.. Каралева феяў... Чароўны прынц... я бачу яго... які ён прыгожы!"

Прынц вельмі здзівіўся, калі пачуў, што дзяўчына прамовіла яго імя. Цяпер ён ужо не сумняваўся, што яна прынцэса і што на яе насланы нечыя злыя чары. Ён загадаў, каб слугі, якія трымалі насілы, ішлі вельмі ціха і каб ніводзін іх рух не пабудзіў Разалі. Сам ён сеў на каня і таксама паехаў побач, ні на хвіліну не адлучаючыся ад насілаў.

Неўзабаве яны прыбылі ў палац. Чароўны прынц загадаў, каб Разалі падрыхтавалі каралевіну спальню, і не дазваляючы нікому да яе дакранууцца, сам панёс у пакой і паклаў там на ложак. Ён сказаў фрэйлінам, якія павінны былі ёй прыслугоўваць, каб яны адразу папярэдзілі яго, калі дзяўчына прачнецца.

Разалі праспала ўсю ноч і ўвесь ранак, і калі нарэшце прачнулася, на двары ўжо быў новы дзень. Яна здзіўлена зірнула вакол і нідзе не ўбачыла шэрае Мышы, тая некуды знікла.

— Няўжо я пазбавілася ад гэтае Мярзотнае варажбіткі? — радасна падумала Разалі. — Можа быць, я трапіла да чараўніцы яшчэ магутнейшай за яе?

Яна падышла да акна і ўбачыла на двары жаўнераў і афіцэраў, апранутых у прыгожую ўніформу. Яшчэ болей здзівіўшыся, яна хацела была каго-небудзь паклікаць, бо падумала, што ўсё гэта чараўнікі ды чарадзеі, але раптам пачула ў сябе за спінай чыюсьці хаду. Яна азірнулася і ўбачыла Чароўнага прынца. Ён быў у раскошным гарнітуры і глядзеў на дзяўчыну, не хаваючы свайго захаплення. Разалі адразу пазнала прынца са сваіх сноў і мімаволі ўскрыкнула:

— Чароўны прынц!

— Вы ведаеце мяне? — здзівіўся прынц. — Але, калі мы ўжо бачыліся, то як жа я мог забыцца на вашае прозвішча і аблічча?

— Прынц, — чырванеючы адказала яму Разалі, — я вас бачыла ў сваіх снах. І майго прозвішча вы ведаць не можаце, бо я сама даведалася пра яго толькі ўчора ад свайго бацькі.

— Што ж гэта за прозвішча, якое ад вас так доўга хавалі?

І тады Разалі распавяла яму пра ўсё, пра што даведалася ад бацькі. Яна шчыра прызналася ў сваёй злачыннай цікаўнасці і расказала пра тое вялікае няшчасце, якое яна прынесла.

— Можаце ўявіць сабе, прынц, як я пакутавала, калі была вымушана пакінуць бацьку, каб уратавацца ад полымя, якое наслала на наш дом нягодная варажбітка, калі памірала ад холаду і голаду, і ніхто не хацеў пусціць мяне на начлег! Але потым мной авалодаў глыбокі сон, і я не ведаю, як апынулася тут, у вашым палацы.

Чароўны прынц расказаў Разалі, як знайшоў яе ў лесе, дзе яна спала, і як пачуў яе словы, якія яна прамовіла ў сне. І потым дадаў:

— Ваш бацька не сказаў вам яшчэ аднаго, Разалі. Каралева феяў, наша сваячніца, вырашыла, што пасля таго, як вам споўніцца пятнаццаць гадоў, вы станеце маёй жонкай. Таму я не сумняваюся, што менавіта яна паслала мне думку паехаць на паляванне з паходнямі, каб я мог знайсці вас у тым лесе, дзе вы заблудзілі. І калі ўжо ўсё роўна да вашага дня нараджэння застаецца зусім нямнога, я прашу вас лічыць гэты палац вашым і загадваць у ім, як сапраўдная каралева. Хутка ваш бацька зноў будзе з вамі, і мы зможам адсвяткаваць наша вяселле.

*(Працяг у наступным нумары)*

## КАЛЯРОВАЯ "ЗОРКА"




*Ці ведаеш дарожныя знакі? Памалюйце знакі і цэлы малюнак. Хто не зробіў ні адной памылкі? Хто ў класе найлепш ведае правілы дарожнага руху?*

## ЦІ КОРМЯЦЬ ВАЎКА НОГІ?

*КАЗКА*

Піліпка — маленькае ваўчаня. На паляванне яшчэ не ходзіць, а толькі глядзіць, дзе б пасваволіць. Асабліва назаляе мядзведзіку Касалапіку і зайчыку Скакунку, якія гуляюць заўсёды разам.

Сёння па дарозе ў сваю школу Піліпка зазірнуў на знаёмую паляну. А там ёлка-прыгажуня стаіць, лямпачкамі рознакаляровымі ззяе. Пад ёлкай мех з падарункамі. Касалапік і Скакунок завіхаюцца. Непрыкметна падкраўся Піліпка, дрот абарваў — згаслі лямпачкі.

Замітусіліся мядзведзік і зайчык, знайшлі абарваны дрот і адразу здагадаліся, чыя гэта работа. А Піліпка схапіў мех з падарункамі і знік у кустах.

— Як жа мы будзем гасцей сустракаць? — забедаваў Скакунок. — Падарункаў няма.

— Заўтра штосьці-небудзь прыдумаем, — сказаў Касалапік. — А зараз давай ёлку ўпрыгожваць.

Піліпка тым часам прыбег у школу. Мех з падарункамі схаваў у кустах, бо ведаў: у ваўкоў законы свае — мігам адбяруць усё і з'ядуць.

Ваўкі сядзелі на пяньках, адзін у аднаго пыталіся, што на дом задавалі, урокаў ніхто не вывучыў. Прыйшоў настаўнік — стары воўк. Прынёс магнітафон. Уключыў запісы галасоў — каня, каровы, авечкі... Хто адрозніць не можа — таму двойка. Сядзяць ваўкі, апусціўшы галовы, і маўчаць. А як забрахаў з плёнкі сабака — усе з пянькоў паўскаквалі.

— Ну, малайцы, хоць гэта ведаеце, — пахваліў стары воўк. — Скажыце, а што ў ваўка самае галоўнае?

Маўчаць ваўкі.

— Эх вы! Самае галоўнае ў ваўка — ногі. Яны яго кормяць і ад бяды ратуюць.

Расказаў стары воўк, як ганяўся за зайцам, як сам уцякаў ад паляўнічых. А потым успомніў:

— Сёння ў нас яшчэ і практыка. Павяду вас у вёску — авечак браць.

Узрадаваліся галодныя ваўкі і пабеглі за сваім настаўнікам.

Авечак вартавалі сабакі — старэйшы, Кузя, і малады, Рэпка. Кузя прыйшоў у футры, а Рэпка — у адных штоніках. Змёрз, просіць футра, каб сагрэцца.

— Сядзі тут, — кажа Кузя, — а я збегаю яшчэ футра прынясу — у адным цесна будзе.

Аддаў Рэпку стрэльбу, футра і пабег. Рэпка залез у футра, цёпла стала, і ён задрамаў. А ваўкі тут як тут. Схапілі Рэпку, доўгія рукавы перавязалі крыж-накрыж — не зварухнешся, рот каўняром заткнулі — на дапамогу не паклічаш.

Пакінулі ваўкі Піліпку пільнаваць Рэпку, а самі — у хлеў, дзе авечкі стаялі. Піліпка ўзняў стрэльбу, націснуў на курок. Як бабахне — ваўкі з хлява хто куды. Стары воўк ужо на бягу паспеў ягня ў мех упіхнуць. Перапалоханы Піліпка таксама ўспомніў пра ногі і кінуўся наўцёкі, але праваліўся ў яму-пастку.

На шум прыбег Кузя. Развязаў Рэпку, разам выцягнулі з ямы Піліпку.

— Што будзем з ім рабіць? — пытаецца Рэпка.

— Пакараем так, як мой прадзед вучыў, — адказаў Кузя.

Збегаў у хлеў, папрасіў у каровы званочак і прывязаў на шыю Піліпку. І адпусцілі ваўчаня ў лес.

А ваўкі сабраліся ў зацішным гушчары і хацелі ўжо ягня з меха даставаць. Раптам чуюць — званочак, ды ўсё бліжэй і бліжэй.

— Ваўка ногі ратуюць! — крыкнуў стары воўк. — Бяжым за Чорнае балота, адседзім там.

Кінулі мех з ягнём і пабеглі. А званочак — следам, звініць і звініць. Гэта Піліпка не адстае, сам сябе падганяе: „Бегчы, толькі бегчы! Ваўка ногі ратуюць". Ганяўся за ваўкамі ўсю ноч. Куды яны — туды і ён. Ваўкі знясілелі, думаюць: сабакі іх зацішныя мясціны высачылі. І Піліпка з апошніх сіл выбіўся. Прыбег на паляну ледзьве жывы, просіць Касалапіка і Скакунка:

— Адчыніце званочак, не магу болей бегаць.

— А навошта мех з падарункамі ўкраў?

— Я аддам.

— А дзе ягня дзелі?

— Я прывяду яго, толькі званочак адвяжыце.

Прынёс Піліпка мех з падарункамі. Потым пабег туды, дзе ваўкі пакінулі ягня, прывёў яго на паляну. Тады Касалапік і адчыніў званочак. Пайшоў Піліпка, хістаючыся ад стомы, сваіх ваўкоў шукаць. Хадзіў-хадзіў, ды так і не знайшоў. Відаць, яны з перапуду ў другі лес збеглі. Сеў на пянёк і заплакаў.

— Чаго ты плачаш? — пытаецца Касалапік.

— Адзін застаўся, таму і плачу.

— Дык ідзі да нас. Будзем разам Новы год сустракаць. Ты, ягня, зайчык і я.

Так пасябраваў Піліпка з Касалапікам і Скакунком. Зразумеў: трэба жыць у міры і згодзе.

**ГЕОРГІЙ МАРЧУК**

# ЧАКАЮЧЫ КАНЦА СВЕТУ

Пра „прарока” Ільлю з Грыбоўшчыны меў я ў сваім жыцці магчымасць прачытаць ужо некалькі дзесяткаў навуковых артыкулаў, рэпартажаў, паслухаць сведкаў тых здарэнняў. Да папулярызацыі асобы Ільі Клімовіча ў навуковым асяроддзі асабліва прычыніўся сацыёлаг Уладзімір Паўлючук (калісь таксама супрацоўнік „Нівы”). Аднак ніякая навуковая праца не паясняе ў такі спосаб феномен „прарока” Ільі як раман — а мо дакладней успаміны — Аляксея Карпюка родам са Страшава, вёскі, якая знаходзіцца недалёка Грыбоўшчыны, месца дзейнасці „святога чалавека”. Карпюк як малады хлапец жыў побач людзей, якія стварылі новую рэлігію, сустракаўся і гаварыў з імі, як ніхто іншы ён найлепш мог прадставіць мінулую рэчаіснасць.

Недзе ў палове 80-х гадоў я меў магчымасць прачытаць ягоную кніжку „Вершалінскі рай” у арыгінале. Пра яе змест я ўжо раней шмат чаго ведаў. Кніжка аднак тады мяне расчаравала. Напісана ў час апагея брэжнеўскага панавання, была яна перапоўненая афіцыйнай ідэалогіяй у якой, як мне здавалася, прападала асноўная тэма рамана — жыццё і дзейнасць „прарока” Ільі. Пару тыдняў таму выйшла з друку гэтая самая кніжка ў перакладзе Сакрата Яновіча на польскую мову пад загалоўкам „Raj w Wierszalinie, czyli przypadki Eliasza”. Сакрат Яновіч не абмежаваўся аднак толькі да перакладу. Тэкст Карпюка дзе-нідзе падкараціў, дзе-нідзе падчысціў з недарэчнасцяў, дзе-нідзе змяніў або дапісаў фразу (не мяняючы сэнсу) і атрымалася зусім дабраякасная літаратура. Хаця той, хто ведае творчасць Сакрата Яновіча і Аляксея Карпюка можа часам сумнявацца, хто сапраўдны аўтар некаторых радкоў.

Кніжка Карпюка — гэта фрагмент гісторыі беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд. Аўтар у знакамітым спосаб прадстаўляе ўмовы жыцця нашых продкаў, іх менталітэт, спосаб мышлення, каларыт эпохі І паловы XX стагоддзя. Раман пачынаецца з паказання беларускага сялянства вёскі Страшава і Грыбоўшчыны яшчэ ў час царскага панавання. Тое, што ашаламляе ў той эпосе — гэта глыбокая вера ў Бога, палітычны парадак і адначасова дзікасць у адносінах да жанчын і дзяцей, катаванне слабых без ніякай прычыны. У рамках такіх жа маральных нормаў дзейнічаў мясцовы Яносік — дэбільны злачынца Паўтарак, з якім не магла справіцца ні расейская, ні пасля польская паліцыя.

У гэтым упарадкаваным свеце, дзе выразна былі акрэслены вартасці і аўтарытэты, што з'яўляецца дабром, а што злом, выхаваўся і Ільля Клімовіч. Маці яго была каталічкай, якая, аднак, старалася выхаваць сына на праваслаўнага. Пануючае веравызнанне заусёды лёгка ўспрымалася і ўспрымаецца плебсам. Ільля, у адрозненні ад іншых сялянаў, гарэлкі нават у рот не браў, не пераносіў таксама дзяцей, уключна са сваімі, жонку трактаваў як мэблю. Усё, што новае лічыў выдумкай чорта. Шмат чытаў, а ўсё, што напісана ў „Біблії”, ці „Евангеллі”, непасрэдна ўспрымаў як юрыдычны кодэкс пісаны па загаду Бога.

Яшчэ да І сусветнай вайны Ільля Клімовіч заявіў жыхарам Грыбоўшчыны, што яму на полі, там дзе ён нарадзіўся, аб'явілася Божая Маці і загадала ў тым месцы паставіць царкву. Хаця жыхары вёскі не надта сур'ёзна ўспрынялі вестку пра сустрэчу Ільі з Прасвятой Багародзіцай, ён сам, нягледзячы на насмешкі, пачаў будаваць царкву. І так пачалася вялікая кар'ера „прарока” Ільі. Неўзабаве далучылася да яго шмат жанчын з навакольных вёсак. Божая Маці пасля ўжо вельмі часта паказвалася на небе, вядома, не ўсім. Аднойчы аб'явіла нейкай Крысціне Русалёвай, што аддае ўсю ўладу на зямлі „чалавеку Божаму” Ільі. 50 гадоў пасля, менш-больш у такі сам спосаб паявілася Божая Маці ў Заблудаве, з такой толькі розніцай, што 14-гадовая дзяўчынка не збіралася ствараць новую каталіцкую царкву і пераймаць усю ўладу на зямлі.

Калі Ільля стаў ужо славутым у ваколіцы „прарокам”, ішлі і ехалі да яго не толькі паломнікі з каштоўнасцямі для „чалавека Божага”, але таксама натоўпы жулікаў, якія на ўсялякі спосаб пераймалі ахвяраванні тых першых. „Прарок”, які неўзабаве меў сотні тысяч злотых і не ведаў нават, дзе іх пахаваў ці закапаў, надалей хадзіў у бруднай вопратцы, еў хлеб з цыбуляй, дачцэ, у якой муж паміраў у шпіталі, адмовіўся пазычыць 200 злотых для ратавання яго здароўя. Карпюк паказаў дасканала псіхалогію нашага раптоўна ўзбагачанага мужыка, які без сэнсу траціць аграмадныя сумы, але нікому не дапаможа ў патрэбе, ніколі не падумае пра грамадскасць, сярод якой жыве, а ў рэшце рэшт пра свае жыццёвыя інтарэсы. Маючы мяшкі грошай, безупынна паўтарае, як яму не хапае сродкаў, каб толькі перажыць.

У тых вёсках, з якіх ішлі паломнікі да „прарока” ведалі пра яго, што ён „святы чалавек”, які выгнаўшы з крэціна чорта, зробіць яго нармальным чалавекам, сляпому верне бачанне свету, выкліча дождж або сонечнае надвор'е. Жыхары Грыбоўшчыны глядзелі на яго, як на звычайнага мужыка. Фанатычныя жэсты паломнікаў успрымалі смехам. Аўтарытэт Ільі Клімовіча асмяшаў усе праявы захавання веруючага чалавека. Неверагодна, як праваслаўнае насельніцтва сур'ёзна ставілася да дзейнасці „цудатворца Ільі і пасланца Божага”. Некаторыя прадавалі свае гаспадаркі, пазбаўляючы спадчыны сваіх дзяцей, аддаючы маёмасць пад горад Вершалін, які будаваў Клімовіч і які толькі меў застацца на зямлі пасля канца свету.

Палітычная, грамадская і эканамічная сітуацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі нараджала выключна радыкалізм. Развіваўся ён у двух напрамках: як канспірацыйная, камуністычная дзейнасць, накіраваная супраць дзяржавы і сектанцкія рухі, накіраваныя супраць Праваслаўнай царквы. Карпюк вельмі трапна прадставіў адносіны польскага боку да беларускага грамадства Гродзеншчыны і Беласточчыны. Мясцовыя ўраднікі, паліцыянты, арыстакраты, афіцэры, настаўнікі сваю прысутнасць на гэтай зямлі трактавалі як місію сярод дзікага люду. Для іх гэта была тыповая калонія, запоўненая прымітыўным людам, які павінен быць удзячны Польшчы за прынесеную ёю цывілізацыю.

Папулярнасць „прарока” Ільі толькі падмацоўвала перакананні палякаў. Быў ён адначасова вельмі пажаданай асобай. Рашуча выступаў супраць праваслаўных іерархаў і святароў, а камуністаў трактаваў як пасланцаў чорта. Пра секту „прарока” Ільі ведалі не толькі мясцовыя ўраднікі, але таксама і варшаўскія, цікавіўся справай таксама прымас Аўгуст Глёнд. Такіх дыверсантаў у лагеры канкурэнтаў нават цяжка было б уявіць у марах.

„Прарок”, які выпадкова забіў мужа сваё служанкі і быў арыштаваны, цераз два дні быў ужо на свабодзе, а адміністрацыйныя і судовыя ўстановы стараліся знайсці нейкага „казла адпушчэння”, каб яго абвінаваціць за чын, які быў удзелам Ільі Клімовіча.

Канец свету, дату якога вызначыў „прарок”, не наступіў. Пару соцень людзей, пазбыўшыся сваёй маёмасці, чакалі на гэты дзень. Расчараваныя вернікі рашыліся распяць „чалавека Божага” на крыжы і чакаць тры дні, каб праверыць ці ён уваскрэсне. Толькі ўцёкамі мог ратавацца „прарок” перад смерцю. Вярнуўся ў свой Вершалін з узброенай ды аплачанай ім бандай. Царкву, якую пабудаваў і ахвяраваныя праваслаўнымі паломнікамі грошы аддаў Каталіцкаму касцёлу.

Ні Карпюк, зямляк Ільі, ні яго вернікі, ні навуковыя даследчыкі не ведаюць, што сталася з „прарокам”, калі ў Грыбоўшчыну прыйшлі саветы. Адны даказваюць, што застрэлілі яго недзе ў Гродне, другія — што памёр у Сібіры.

Кніжку Аляксея Карпюка, безумоўна, варта прачытаць. Можна там знайсці і шмат адказаў на пытанні пра нашу сённяшнюю псіхіку ды свядомасць.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

*) *Aleksiej Karpiuk, Raj w Wierszalinie, czyli przypadki Eliasza, Białystok 1993, s. 288. Tłum. Sokrat Janowicz.*

# МОЖНА ДАВЕДАЦЦА

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку выдаў у гэтым годзе асаблівы даведнік, а менавіта „Wademecum gmin województwa białostockiego”.

Чытачам „Нівы” прапаную некаторыя інфармацыі з гэтага даведніка.

У нашым ваяводстве жыве больш 700 000 людзей, з чаго 60% у гарадах, у тым: у Беластоку — 300 000, Бельску — 27 000, Гайнаўцы — 25 000, Саколцы — 20 000, Лапах — 17 000, Сямяцічах — 15 000, Моньках — 10 500. Ваяводства падзеленае на 55 гмін: 5 — гарадскіх, 12 — гарадска-вясковых і 38 — вясковых. На Беласточчыне ўсяго 17 гарадоў і больш паўтары тысячы вёсак. Амаль у кожнай гміне дзейнічае Гмінны асяродак культуры (GOK). Няма такой установы ў Мілейчыцах, Гродзіску і Пасвентным. Колькасць вясковых клубаў і святліц на аснове гэтага даведніка немагчыма падлічыць. Прыблізна яны знаходзяцца ў кожнай чацвёртай вёсцы.

Агульна (без лікаў) пададзена, што на Беласточчыне жывуць палякі, беларусы, расіяне, украінцы, татары і яўрэі. У паасобных гмінах пра шматнацыянальны характар насельніцтва не згадваецца. Пададзена толькі, што ў Беластоку жывуць беларусы, ромы, татары, украінцы і яўрэі (а што з палякамі?). Такія інфармацыі — нейкія цьмяныя.

У даведніку кожная гміна прадстаўлена паводле схемы:

— агульныя геаграфічныя паказчыкі,

— пералік культурна-асветных і спартыўных асяродкаў ды грамадскіх арганізацыяў,

— пералік калектываў і гуртκоў мастацкай самадзейнасці,

— названне майстроў мастацкай творчасці,

— важнейшыя культурныя мерапрыемствы,

— пералік помнікаў мінуўшчыны,

— іншыя асаблівасці культурнага і турыстычнага характару.

Шмат з гэтага можна даведацца, але адчуваецца фармалізм у падыходзе да справы і пэўную тэндэнцыйнасць. Для прыкладу: шмат якія цэрквы акрэслены як „грэка-каталіцкія, а цяпер праваслаўныя”. Такое стаўленне стварае ўражанне небагатай традыцыі праваслаўя на нашай зямлі.

Можна падлічыць, што на Беласточчыне ёсць:

— 58 фальклорных спявачых калектываў (сярод іх 24, якія ў рэпертуары маюць беларускія песні),

— каля 40 вакальна-інструментальных маладзёжных гуртоў (пра беларускі рэпертуар не згадваецца),

— 14 хораў (хор Васілёчкі” з наступным рэпертуарам: беларускія рэгіянальныя, польскія, украінскія і расейскія песні),

— 15 маладзёжных тэатральных груп (пра беларускі „Балаган” — нічога),

— вельмі многа рознага роду дзіцячых калектываў і гуртκоў зацікаўлення (толькі тры разы намякаецца пра беларускі рэпертуар у іх).

Наколькі верагодныя такія інфармацыі ў даведніку, цяжка акрэсліць. Я магу толькі аднесціся да інфармацыі пра Рыбалы (дзе жыву) і Паўлы.

У даведніку пададзена наступнае:

— маладзёжны гурт-кабарэ паўстаў у 1980 годзе, налічвае 8 чалавек,

— дзіцячы вакальны калектыў — паўстаў у 1988 г.,

— тэатральны калектыў „Рыбалкі” — паўстаў у 1983 г., налічвае 21 чалавека,

— Спявачы мужчынскі калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы” — паўстаў у 1983 г., налічвае 9 чалавек,

— тэатральны калектыў з Паўлаў — паўстаў 27 гадоў таму.

У сапраўднасці выглядае гэта „крыху” іначай:

— ёсць некалькі маладых дзяўчат і хлопцаў, якія некалькі разоў выступілі на сцэне. Аднак немагчыма гэты гурт назваць кабарэ,

— ёсць група дзяцей (больш дзесяці вучняў), якая займаецца ў клубе мастацкай самадзейнасці (спеў, лялечны тэатр) і мае пэўныя поспехі,

— „Хлопцы-рыбалоўцы” надалей спяваюць, дзякуючы вялікім намаганням Мікалая Ігнацюка,

— тэатральны калектыў у Паўлах спыніў сваю дзейнасць у 1976 годзе, а затым адрадзіўся ў 1986 годзе. Пасля некалькіх гадоў плённай дзейнасці зноў наступіў занянад. Ёсць магчымасць яшчэ раз адрадзіцца, але хто ў гэтым зацікаўлены?

Мае асабістыя старанні весці сцэнічную самадзейнасць у Паўлах і Рыбалах разбіваюцца, мякка кажучы, аб „мур” абыякавасці з боку чыноўнікаў па культуры.

У выдадзеным Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры ў Беластоку даведніку многа розных інфармацыяў, але нічога ў ім няма пра сусветнавядомага мастака Лявона Тарасэвіча і літаратурнае аб'яднанне „Белавежа”.

Адчуваецца, што аўтары гэтага даведніка саромеюцца важкага значэння беларускай культуры ды не заўважаюць ніякіх праблемаў у анімацыі культуры нашага ваяводства.

**ЯН МОРДАНЬ**

# ПЛЁН КАНГРЭСУ БЕЛАРУСІСТАЎ

У 1990 годзе адбыўся працэс аб'ядноўвання гісторыкаў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, якія займаюцца даследаваннем беларускай культуры, у беларусазнаўчыя навуковыя таварыствы ў розных краінах свету. Яго завяршэннем было стварэнне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Міжнародны кангрэс беларусістаў, які адбыўся ў Менску 25—27 мая 1991 года. Кангрэс прыняў тады рашэнне выдаць друкам прадстаўленыя на ім матэрыялы. І вось некалькі месяцаў таму з'явіўся першы том выдання „Беларусіка-Albaruthenica” */ пад рэдакцыяй прафесара Адама Мальдзіса.

У выданні памешчаны 53 даклады і паведамленні, прачытаныя ўдзельнікамі Міжнароднага кангрэсу беларусістаў і 15 матэрыялаў з міжнароднай навуковай сесіі, праведзенай у верасні 1990 года Акадэміяй навук Беларусі да 500 годдзя з часу нараджэння Ф. Скарыны. Трэба адзначыць, што значную частку матэрыялаў (чатырнаццаць артыкулаў) складаюць публікацыі польскіх беларусістаў з Беластока, Варшавы, Кракава, Любліна, Вроцлава і Познані.

Рыхтуецца ўжо да друку чарговы выпуск „Беларусікі”, у якую ўвойдуць працы беларускіх і замежных навукоўцаў, прысвечаныя адраджэнню беларускага народа, развіццю нацыянальнай культуры, яе ўзаемадзеянню з культурамі іншых народаў. У другім томе будуць прадстаўлены найбольш цікавыя даклады, прысвечаныя беларускалітоўска-польска-ўкраінскаму культурнаму паграніччу, зробленыя на міжнароднай канферэнцыі „Рым—IV” у Гродне і іншых форумах.

(л)

---

*/ *Беларусіка—Albaruthenica: кніга 1. Рэд. А. Мальдзіс і інш. Менск, Навука і тэхніка, 1993. 350 с.*

# КАПЛІЧКА Ў "ТРОЙЦЫ"

У лютым гэтага года Брацтва праваслаўнай моладзі Варшаўска-Бельскай епархіі накіравала ў дырэкцыю Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім адмысловы ліст. Датычыў ён ушанавання месца, у якім у мінулым стаяла царква св. Мікалая. У лісце, між іншым, чытаем:

*Początki istnienia cerkwi i parafii św. Mikołaja Cudotwórcy w Bielsku Podlaskim sięgają 15-go wieku. Znajdowała się ona na terenie obecnie zajętym budynkami Szkoły Podstawowej Nr 3 oraz Liceum Ogólnokształcącego im. Bronisława Taraszkiewicza. Cerkiew owa, przy której do 1824 roku istniał prawosławny monaster, spłonęła w czasie działań wojennych w 1941 roku. Do dnia dzisiejszego miejsce to, poniekąd święte dla prawosławnych mieszkańców miasta nie jest upamiętnione.*

У сувязі з гэтым Брацтва праваслаўнай моладзі лічыць слушным ушанаванне гэтага месца *poprzez wzniesienie w narożnej części placu szkolnego "czasovni" (kaplicy) pod wezwaniem św. Mikołaja*, тым больш, што вакол былой царквы св. Мікалая распасціраліся ў мінулым могілкі, аб чым сведчаць раскопкі. Ініцыятыву Брацтва блаславіў мітрапаліт Варшаўскі і ўсёй Польшчы Васілій, падтрымаў яе таксама духоўны апякун арганізацыі айцец Лявонцій Тафілюк, які ў лісце да дырэкцыі бельскай "тройкі" папрасіў выдзяліць адпаведную пад пабудову пляцоўку.

Кіраўніцтва бельскай школы і, персанальна, яе дырэктар Васіль Ляшчынскі перашкод для ажыццяўлення гэтай ініцыятывы не бачыць. Адпаведных пад пабудову пляцовак на школьным двары не бракуе - сказаў. Улады горада Бельска з дазволам на пабудову паўстрымаліся. Рашэнне такое, даведаліся мы неафіцыйна, можа быць прынята пасля зацвярджэння новага праекта прасторавага загаспадарання горада. Больш канкрэтнае становішча ў гэтай справе заняў куратарыйна-асветны бок. Куратория з пабудовай пагаджаецца, калі верыць гэтай жа неафіцыйнай крыніцы, з тою аднак умовою, што капліцка не перавысіць самой школы.




Паводле праекта, які Брацтва далучыла да свайго ліста (рэпрадукцыя ўверсе), капліцка будзе мець 9 метраў і 30 сантыметраў вышыні - калі лічыць ад фундамента па дах. Бельская "тройка" мае прыблізна 11 метраў. Праект каплічкі нічога аднак не згадвае пра размеры купала і праваслаўнага крыжа на ім, а значыць можна меркаваць, што каплічка ўсё-такі перавысіць бельскую школу н-р 3. Што на гэта скажа куратарыйны бок?

(алм)

## V УСЯЛЕНСКІ САБОР — КАНСТАНЦІНОПАЛЬ, 553 г.

Пасля Халкідонскага Сабору ў 451 годзе Царкву ў далейшым трывожылі ўсялякія ерасі. Адной з галоўных прычын тадышніх спрэчак сталі працы і пісьмы трох сірыйскіх епіскапаў: Фёдара Мапсуесцкага, Феадарыта Кірскага і Івы Эдэскага, якія жылі ў І палове V стагоддзя. Іхныя шырокавядомыя і папулярныя творы або змяшчалі ў сабе нестарыянскія ідэі, або выступалі ў абарону гэтай ерасі. У сувязі з гэтым, што працы не былі асуджаны IV Усяленскім Саборам, монафізіты паставілі закід, што спрыяў ён нестарыянству. У той час імператарам стаў Юстыніян І (527-565). Імкнуўся ён, між іншым, увесці мір у жыццё Царквы шляхам далучэння да яе шматлікіх, асабліва ў Егіпце, монафізітаў. Склікаў ён нават невялікі сабор праваслаўных епіскапаў і монафізітаў, але аказаўся ён безвыніковым. Імператар выдаў таксама два эдыкты аб трох творах (544 і 551), у якіх асуджаны былі працы згаданых епіскапаў і адзін з аўтараў — Фёдар Мапсуесцкі. Гэтыя меры не апраўдалі спадзяванняў імператара, а наадварот — выклікалі супрацьўленне, асабліва на Захадзе. Не бачачы магчымасці хуткага заканчэння спрэчак, Юстыніян рашыў спаслацца на аўтарытэт сабору і ў 553 годзе склікаў у Канстанцінопаль V Усяленскі Сабор. Айцы Сабору (а было іх 165), дэталёва пазнаёміўшыся са зместам твораў згаданых настаўнікаў сірыйскай Царквы, вырашылі асудзіць Фёдара Мапсуесцкага і яго творы, паколькі ён да канца жыцця не адмовіўся ад свайго нестарыянскага вучэння. У справе двух астатніх епіскапаў Сабор вырашыў асудзіць толькі іх творы, напісаныя ў нестарыянскім духу, а менавіта твор Феадарыта Кірскага накіраваны супраць св. Кірылы Александрыйскага, а таксама ліст Івы Эдэскага к Марыю Персу. Самі аўтары не былі асуджаны, бо перад смерцю адракліся ад сваіх памылковых поглядаў і памерлі ў еднасці і ў міры з Царквою. Апрача таго Сабор зацвердзіў пастановы ўсіх ранейшых усяленскіх сабораў, якія датычылі хрысціянскай веры і паўтарыў асуджэнне нестарыянскай і монафізіцкай ерасей. На гэтым Саборы не былі ўстаноўлены асобныя каноны.

С. Н.




*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

### ЧАС

Час свет змяняе на сваёй дарозе:
Ён, як мастак, фарбуе летам луг,
А, як тыран, зімой нясе марозы,
Арэ маршчыны, як барозны плуг.

Дае спачатку маладосць і сілу,
Даруе часам радасць і вясну,
І гоніць нас з хваробай да магілы,
Бярэ з жыцця высокую цану.

Мае юнацтва ён загнаў далёка,
Дзесь у прытоны сумнай чужыны,
І блукаў я, як ручаёк патока,
Ад родных адарваўшыся крыніц.

Мяне ён пхнуў у снежныя траншэі,
Каб там страляць да ворагаў жывых,
І бегчы у атакі пры завеі
Пад градам куль, між выбухаў глухіх.

Ён мне даваў і шчасце і нягоды,
Памог пражыць няволю і вайну.
Ахвяраваў мне горыч і пагоду,
Каханне, асалоду і ману.

Я не баяўся гора і злой долі
І ў пераплёты я трапляў не раз,
Ды час мяне выцягваў з іх няволі
І адганяў бясілле і маразм.

З нуды ён паказаў мне частку свету,
Пазнаў я многа радужных дзяржаў:
Я ў моры не адным купаўся летам,
І горы не адны я праязджаў.

Наркотык тэхнікі ўвайшоў мне ў жылы
І папаўняў яго праз годы час,
Аднак заўсёды я знаходзіў сілы,
Каб паглядзець здалёку на Парнас.

І памагла ў гэтым мне Эрата,
Калі валодаў мною чорны сплін;
Яна прасіла да сваіх палатаў
На мноства мрой і радасных хвілін.

Час не стаяў, ішлі за годам годы
І маладосць прабегла прада мной
І вось тады зазззяў прамень свабоды
Над беларускай роднаю зямлёй.

Які далей мне час нясе парадак?
Ці родны край пакінуць каршуны?
Ці ён не ўбачыць атамных пажараў?
Ці не пачуе грукатаў вайны?

Жадаю ўсім, каб быў спакой і радасць,
І каб не зналі голаду, бяды,
Каб быў усюды тыпавы парадак
І каб цвілі цудоўныя сады.

*ГАЛІНА РАШЧЫНСКАЯ*

### РАЗВАЖАННІ...

Паперы белае квадрат
як антыпод квадрата,
І чорны грыф-кавалергард
зноў бель чарніць упарта...
У чорна-белай кругаверці
паперы-слоў, паперы-слоў
Графічна праступае квецень
маіх нясправўдзіўшыхся сноў...

*

Адвечны надвячорак
сыходзіць у імжу,
Бы ўвышы Нехта зводзіць
віровую ваду...
Але, праз непагоду,
праз хмары і слату
Нам Вечнасць
светам зорным...
Працягвае руку.
Баронны гэты дотык
матуліных далоняў,
Бо ўсе мы -- знічкі, знічкі,
але... з Яе ўлоння...

*

Праз адлегласці-межы,
Праз сутарыцу свету
Адчуваю пяшчоту
Аднаго чалавека...

Не пазбавіцца сэрца
Дабрыні і спагады,
Калі Вам нехта ў Свеце
Не на словах адданы.

# НАШЫ КАРАНІ

## LVIII. ВЯЛІКАЯ АПЯКУНКА

На жаль, настае час развітання з багатай і прыязнай Праваслаўю эпохай, у якой дзейнічала вялікая княгіня Галена Іванаўна, дачка маскоўскага вялікага князя Івана Васілевіча і жонка вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра (Казіміравіча) Ягелончыка. У Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім) і Каралеўстве Польскім жыла яна даволі коратка, усяго 18 гадоў, але і ёй, і блізкім да яе людзям хапіла іх, каб здзейсніць вялікія справы па ўмацаванню Праваслаўя на беларускіх і ўкраінскіх землях, а таксама натхніць праваслаўнае баярства, мяшчанства і іншых насельнікаў гэтых зямель да абароны сваёй веры на доўгія і нялёгкія дзесяцігоддзі.

І на Беласточчыне аж да нашых дзён засталіся трывалыя сляды дзейнасці вялікай княгіні Галены. Як піша беластоцкі беларускі гісторык д-р Антон Мірановіч, у 1497 годзе вялікая княгіня з мужам падаліся ў падарожжа па заходняй частцы Беларускай дзяржавы, між іншым, яны наведалі вельмі важны ў тыя часы гаспадарчы і духоўны асяродак — Бельск (Падляшскі). Замак, горад і ўся Бельская зямля вельмі палюбіліся вялікай княгіні. Ужо, відаць, тады па просьбе Галены Аляксандр загадаў перанесці „царкву, дзе пахавана цела бабкі нашай княгіні Васы Міхайлавай (*сястра каралевы Соф'і, жонкі караля Якава-Ягайлы-Уладзіслава — МГ*), з замка на гары, дзе ён знаходзіцца, на іншае годнае месца". Вялікая княгіня тады ж паклапацілася пра забеспячэнне гэтага храма (Нараджэння Прачыстай Дзевы Марыі) новым абсталяваннем, літургічным начыннем, богаслужэбнымі кнігамі. Таксама тады ж яна ахвяравала славутую ікону Божай Маці з Дзіцём — Бельскую Адзігітрыю. Гэтая, адна з найвыдатнейшых святасцей на Беласточчыне, была створана ў другой палове XV стагоддзя ў Маскоўскім княстве невядомым іканапісцам, магчыма, родам з Грэцыі і прывезеная Галенай у 1495 г. у Вільню. Гэтак па Божай волі яшчэ перад пажарам бельскага замка ў 1565 г. храм з іконай пратрывалі непашкоджанымі паўтысячагоддзя і сёння асвячаюць нашу праваслаўную веру на Беластоцкай зямлі.

З крыніц вядома, што падобную на Бельскую Адзігітрыю, другую ікону вялікая княгіня Галена накіравала ў Супрасльскі манастыр. Таксама ў гэты ж манастыр, калі ён першапачаткова знаходзіўся ў Гарадку-на-Супраслі, яна ахвяравала адну з найсвяцейшых хрысціянскіх рэліквіяў — частачку Крыжа, на якім пакутніцкай смерцю памёр Ісус Хрыстос. Гэтая святыня манаскай брацціяй была ўкладзена ў той крыж, які пушчаны па рацэ Супраслі, як кажа легенда, затрымаўся каля ўрочышча Сухі Груд, у якое і быў затым перанесены манастыр. Гэтыя абедзве святасці знаходзіліся ў Супрасльскай Лаўры да тае пары, пакуль яна была праваслаўнай. Пасля, калі Лаўру захапілі уніяты, звесткі пра ахвяраваныя Галенай святасці загінулі. Вялікая княгіня выдатна пасадзейнічала заканчэнню пабудовы і абсталяванню , заснаваных у 1494 годзе, манастыроў у Бельску і Драгічыне, а таксама царкваў у іншых рэгіёнах тадышняй Беларускай дзяржавы, у тым у Гомелі, Слуцку, Чарнаўчыцах і другіх мясцовасцях.

Вялікая княгіня Галена вельмі любіла Бельшчыну. Пасля смерці мужа яна атрымала ад яго брата, караля і вялікага князя Зыгмунта (Старога) як удовін надзел на ўтрыманне якраз Бельскую зямлю з гарадамі Бельскам, Бранскам і Суражам. У гэтых двух апошніх гарадах у той час паўсталі новыя праваслаўныя храмы. Галена некалькі гадоў жыла ў бельскім замку, малілася ў тадышніх бельскіх цэрквах, сустракалася з мясцовым духавенствам і свецкімі бяльшчанамі. Усё гэта ўмацоўвала духовае жыццё праваслаўных у нашым рэгіёне.

Памерла вялікая княгіня Галена 20 студзеня 1513 года ў сваім палацы ў Браславе, на поўначы Беларусі. Яе атруцілі Радзівілы, якія квапіліся на княгініну маёмасць. Пахавана яна ў Свята-Прачысценскім саборы ў Вільні, дзе спачылі праваслаўныя вялікія князі і княгіні Беларускай дзяржавы.

МІКОЛА ГАЙДУК

# ДЗЕ ЯНА, БЕЛАРУСЬ?

Працяг са стар. 4

мне расказаць пра Хасана Канапацкага і яго ролю ў беларускім руху. Сустрэчу падсумаваў сп. Якубоўскі словамі: "Раз мы згубілі сваю родную мову, дык цяпер не губляйма беларускай".

### НЯСВІЖ І ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ

У нядзелю 18 ліпеня з Ірай Гаданчук выбраліся мы ў Нясвіж. Мне трэба было знайсці дом пры былой вуліцы Завальнай. Да 1945 года жыла там сям'я Скварцовых. Пасля выехалі яны ў Польшчу, у Гданьск. Спадарыня Галіна не была ў Нясвіжы ад выезду. Шукалася цяжкавата, бо ніхто не ведаў дзе такая вуліца была. Цяпер гэта вуліца Каперніка. Адшукалі знаёмую спадарства Скварцовых — Чэсю Жылінскую, якая паказала нам дом, у якім жывуць цяпер зусім іншыя людзі. Вярталіся назад побач былога кляштара бернардзінак -- цяпер Педагагічнага вучылішча. У Нясвіжы былі таксама на Замку Радзівілаў, дзе знаходзіцца санаторый. Абавязкова зайшлі ў сярэдзіну (куды "вход запрещён"), каб дыхнуць духам Радзівілаў, прайшліся па парку.

Здавалася нам, што ў Нясвіжы адно касцёл не змяніў уласніка. Праз адкрытыя вакенцы мы паглядзелі на крыпты Радзівілаў. Набажэнства ў касцёле ксёндз адпраўляў на польскай мове з свойскім беларускім акцэнтам. Служаць таксама і на рускай мове. На жаль, у касцёле адсутнічае беларуская мова. Нашыя заўвагі наконт здзекаў над беларускай мовай звярнулі ўвагу мясцовай жанчыны, якая на парозе касцёла на чысценькай беларускай мове адмаўляла правa звяртацца на ёй да Бога.

У Менск вярталіся мы з экскурсіяй дзяцей з Члухова (што на Памор'і). Спадарожнічаў нам спадар Аляксандр Прушынскі, які прадставіўся нам як будучы прэзідэнт Беларусі. Усю дарогу распавядаў ён на польскай мове (беларускай яшчэ вучыцца) пра свае планы "Вялікай Беларусі". Запэўніваў пры гэтым: *Niech oni w Polsce nie myślą, że jak zostanę Prezydentem Białorusi to przyłączą Białoruś do Polski!* Думалася: сцеражы, Божа, Беларусь ад такіх прэзідэнтаў. Хаця, як будзе, час пакажа.

### СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ І ВІЛЬНЯ

Набліжалася 27 ліпеня -- афіцыйнае свята незалежнасці Беларусі (3-я ўгодкі прыняцця дэкларацыі аб суверэнітэце БССР). Мала хто гаманіў аб вялікім дзяржаўным свяце. Маючы тры выхадныя дні людзі на чым маглі выязджалі на дачы. Каб не патраціць часу, я сабралася ў Вільню ў бібліятэку Акадэміі навук. З гэтага, што там знайшла, найбольшае ўражанне зрабілі: справа базыльянскіх муроў, справаздача з пражскай канферэнцыі ад 1921 года (беларускай эміграцыі), машынапіс кнігі Ул. Глыбіннага "Жыве Беларусь", прысланай у 1943 годзе з Менска ў Музей імя Я. Луцкевіча з просьбай надрукаваць калі-небудзь.

У Вільні пасля выхаду з цягніка чуваць і відаць, што знаходзішся ў сталіцы Літвы. Беларусы жывуць тут у зацішшы, як у сябе. І кажуць: "У Вільню проста трэба прыязджаць жыць". Напярэдадні свята незалежнасці, вячэраючы, мы з сумам гаварылі пра беларускую незалежнасць. Ці ёсць тут што святкаваць і якая тут незалежнасць, калі не прызнаецца іншых падзеяў, звязаных са змаганнем за Беларусь як дзяржаву?

Менскае радыё паведаміла аб адкрыцці 27 ліпеня беларускага консульства ў Гданьску. Як пазней я даведалася, на адкрыццё не запрасілі прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Гданьску. Затое прысутны былі палітычныя і маральныя ўлады Гданьска. Вось якая яна, рэчаіснасць! Што з гэтага, што на Кангрэсе беларусаў свету прынялі пастанову аб значэнні беларускай дыяспары, калі сённяшняя незалежная Беларусь не патрабуе прысутнасці сваіх дзяцей на такіх імпрэзах. А можа дыяспара не дарасла да гэтага (ці не заслужыла), каб удзельнічаць у банкетах і быць у нармальных адносінах са сваім прадстаўніцтвам і мясцовымі ўладамі?

### ЁСЦЬ ТАКІ ЧАЛАВЕК!

Яшчэ адзін лёс. Будучы ў Менску, адведала я спадара Сяргея Новіка-Пяюна. Хацела, каб расказаў ён мне пра знаёмства з Альбінам Стаповічам. Гэты эпізод так сама, як эпізоды з ксяндзом Віктарам Шумовічам (у бібліятэцы АН РБ) усвядоміў мне чарговы раз, што сапраўднаму шчыраму беларусу няма месца нават на ягонай роднай зямлі. Пабачыўшы каробкі з рукапісамі і наслухаўшыся гісторыі жыцця дзядулі (даўнейшага "Маладога дзядка"), думала: няўжо ў незалежнай (з назвы) Беларусі Сяргей Новік-Пяюн не дачакаецца выдання сваіх "Песняў з-за кратаў"? Пакуль што, ён спатыкаецца толькі з абяцаннямі.

Вось яна, сапраўдная Беларусь -- без выразнага беларускага аблічча.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**




# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

### ЧАСТКА XVI

Тыдзень таму назад цытаваў я шасцідзесяцігадовага прафесара, які выразна супрацьставіўся ідэі вайсковага саюза Беларусі з Расіяй, бачачы ў ім праяву адвечнай экспансіі рускага мілітарызму. Сёння прагну працытаваць шасцідзесяціпяцігадовага таксама прафесара, які на гэтую справу глядзіць зусім па-іншаму:

„Пытаеце пра ваенны саюз Беларусі з Расіяй? Адкажу вам проста і адназначна. Саюз такі для нас неабходны як вада і агонь для чалавека. Беларусь — еўрапейская краіна. Беручы пад увагу нашы эканамічныя магчымасці, Беларусь можа ўтрымліваць прыблізна пяцідзесяці-сямідзесяцітысячную армію. Па сутнасці такая армія гэта паліцэйскія сілы. Зразумела, што такая армія не ў стане абараніць незалежнае існаванне Беларусі на выпадак агрэсіі з боку іншых краін. Можам паставіць пытанне: ці ўвогуле існуе пагроза агрэсіі з боку іншых народаў? Тут трэба спаслацца на гісторыю. На працягу апошніх тысячы гадоў на тэрыторыі Беларусі мелі месца сотні войнаў і канфліктаў. Былі гэта войны з той мэтай, каб загарнуць Беларусь для сябе. Здаралася і так, што мэтай гэтых войнаў было знявoленне Расіі або Польшчы і ў такіх выпадках Беларусь станавілася ахвярай агрэсіі з рацыі свайго геаграфічнага размяшчэння. Яе няволілі манголы, татары ці Расія, ідучы ў Польшчу або шведы, французы, немцы ці палякі ідучы ў Расію. Ніхто не можа сказаць, што ўсё гэта мінулае, якое ўжо ніколі не паўторыцца. Толькі наўны чалавек мог бы сцвердзіць, што ў наступным тысячагоддзі не будзе ў Еўропе ваенных канфліктаў і што Беларусь зноў не стане тэрыторыяй кровапралітнай вайны. Калі гэта будзе, ніхто не ведае — праз дзесяць, сто ці дзвесце гадоў. Можа быць па-рознаму. Так ці інакш мы не толькі маем права але і абавязак думаць аб розных варыянтах будучыні. І зыходзячы з таго, што Беларусь не ў стане сама сябе абараніць, мусім браць пад увагу неабходнасць ваенных саюзаў Беларусі з іншымі краінамі. А калі так, дык мусім зрабіць крок далей і сказаць, з якой краінай хочам быць у ваенным саюзе.

Вы гаворыце, што Беларусь павінна шукаць гарантыі для сваёй бяспекі ў агульнаеўрапейскім мірным пакце, а не ў саюзе толькі з адным народам. Я думаю, што ідэя агульнаеўрапейскага, а тым больш агульнасусветнага міру і бяспечнасці — гэта наіўная і нерэальная ідэя. Пярэчыць ёй хаця б сённяшняя Югаславія, а ў сусветных маштабах В'етнам, Афганістан, Самалі. Вы гаворыце, што Расія — нелаяльны і ненадзейны саюзнік, дык назавіце мне, калі ласка, болей надзейных і лаяльных? Хто? Можа Польшча? Можа Германія? Можа Украіна? Можа Літва? Ну, хто?

На маю думку Расія — наш саюзнік праверaны гісторыяй. Ці вы забылі аб тым, што ў часе гітлераўскай акупацыі загінула болей чым два мільёны беларусаў? Ці вы ведаеце, што гэта сума падзеленая на болей як тысячу дзён акупацыі на Беларусі дае болей як дзве тысячы ахвяр кожнага дня? Увіцце сабе, што для поўнага знішчэння беларускай нацыі спатрэбілася б пятнаццаць гадоў акупацыі і не асталося б на зямлі ніводнага беларуса. Ведайце, што калі б не Расія, дык акупацыя Беларусі працягвалася б тысячу гадоў, бо столькі паводле планаў Гітлера меў існаваць Трэці Рэйх. Трэба ўтрымліваць саюзы праверaныя і такім ёсць несумненна саюз з Расіяй. Калі нехта з беларусаў не разумее гэтага сёння, дык зразумее заўтра. Думаю, што вы таксама".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ-ВІЛЕНЧУКОМ

*(Заканчэнне, пачатак у 40 н-ры)*

## НА ПЕРАЛОМЕ ПАКАЛЕННЯЎ

Беларускі графік пабыўкі ў Вільні /быў яшчэ польскі, татарскі, нават геранталагічны/ я закончыў наведаннем рэдакцыі "Нашай Ніве". З папярэдніцай яе "Нашай Нівай", якая выдавалася тутака ў 1906-1914 гадах я шчыльна зжыўся, калі ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве гартаў яе пажоўклыя, нават месцамі пакрышаныя ад старасці старонкі, бачыны, як у мінулым гаварылася. Гэта быў 1956 год. Падрыхтоўваў я для "Нівы" артыкул да 50-годдзя выхаду яе першага нумара. Артыкул быў змешчаны 11 лістапада ў 27 нумары "Нівы". І вось началося!.. Я ж парушыў табу! Аб "Нашай Ніве" ў БССР або не пісалася, або так, як аб нацыяналістычнай агідзе. Зразумела, асабліва пацярпеў наш галоўны рэдактар Георгі Валкавыцкі за тое, што пасмеў штосьці такое апублікаваць. Аднак гэта іншая тэма і не месца, каб яе тут закранаць. Усё ж такі спасылаюся на гэты памятны для мяне факт, каб чытач уявіў сабе, як цікава мне было сустрэцца з сённяшняй "Нашай Нівай" у цалкам ужо іншым гістарычным кантэксце.

"Наша Ніва", выдаваная Беларускім гуманітарна-адукацыйна-культурным цэнтрам, была заснавана Паўлам Жуком у 1991 годзе. Адразу стала вядома, што газета працягвае традыцыю сваёй папярэдніцы.

Сардэчна прывітаў мяне спадар Сяргей Харэўскі, намеснік галоўнага рэдактара, адначасова мастацкі рэдактар. Нам было аб чым размаўляць. Гэта зразумела. Хачу звярнуць увагу на вузлавыя справы, якія мы абмяркоўвалі. Спадар Харэўскі сфармуляваў асноўныя напрамкі рэдакцыйнай працы. Палягаюць яны на шырокім падыходзе да пытанняў сучаснага жыцця народа, на абмяркоўцы далейшых фактараў яго развіцця, каб пачаў адчуваць сябе паўнацэнным у сям'і еўрапейскіх нацыяў, урэшце на карпатлівым выпрацоўванні самой ідэі нацыі.

— Адсутнасць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў самым сучасным разуменні гэтай праслойкі -- вялікая балячка беларусаў, -- падкрэсліў рэдактар Харэўскі.

Слухаючы спадара Сяргея пачаў я ўяўляць, якой вялікай гістарычнай місіі хоча служыць калектыў "Нашай Нівы", якая вялікая гэта адказнасць. А ў асноўным працуюць тут маладыя людзі. Калі пішу гэтыя словы, наведваюць мяне думкі, якія прапаную ўвазе чытача. Дык куды ж лепшая была сітуацыя "Нашай Нівы" 1906-1914 гадоў! Тады існавала інтэлігенцыя, якая ў асноўным сваім складзе выйшла з сялянскага асяроддзя, аднак з пэўнымі гіпатэзамі прадаўжала працу беларускіх асветнікаў XVI стагоддзя. Памятайма ж, што шматлікія шляхецкія роды на працягу вякоў збяднелі, пераходзячы ў сялянства. Таму паяўленне інтэлігенцыі, асабліва ў другой палове мінулага стагоддзя ці так асабліва каштоўнай на пераломе XIX-XX вякоў не было выпадковай з'явай, а паслядоўным працэсам, працягам традыцыі. Гэтыя людзі знішчаліся ў савецкі час, а 30-я гады прынеслі поўную іх ліквідацыю.

Намаганні "Нашай Нівы" і шчыльнага вакол яе кола дзеячоў патрабуюць вялікай мудрасці, вопыту, проста знясільваючых стараннях. Тым больш цэннай з'яўляецца прысутнасць у складзе рэдакцыйнай рады прадстаўнікоў старэйшага пакалення, -- у тым ліку і спадара Лявона Луцкевіча.

Рэдакцыя ахвотна друкуе паэзію і прозу аўтараў з глыбіні народа, правінцыяльных, з усіх закуткаў Беларусі. Вылаўлівае яна самародныя таленты, падрыхтоўваючы такім чынам грунт пад новыя літаратурныя плыні, служыць кшталтаванню маладой інтэлігенцыі. На старонках газеты трэба сэнсоўна захаваць прапорцыі: каго і што змяшчаць; шмат тутака і замежных аўтараў. "Наша Ніва" мае падпісчыкаў і сімпатыкаў, як вобразна сказаў спадар Харэўскі "паміж Новым Полацкам а Нью-Йоркам, паміж магілай святога Пятра а магілай Хрыста..."

Наступальнасць і вынаходлівасць вызначаюць "прыроду" газеты. Можна сказаць, што яна адразу стартавала вертыкальна, не баючыся рызыкі. Гэта надзвычай смелы эксперымент.

Калі я пакідаў рэдакцыю, мой позірк упаў на фатаграфію Лявона Луцкевіча і Хведара Нюнькі за вітрынай бібліятэкі. Здымак быў зроблены з нейкай нагоды. Мне было вельмі прыемна яшчэ раз іх пабачыць, сярод маладых супрацоўнікаў-віленчукоў "Нашай Нівы", якія то ўваходзілі, то выходзілі з рэдакцыі: гэта ж быў час напружанай працы. Адчувалася, што нашыя сучасныя патрыярхі віленскай беларушчыны спакойна, з надзеяй глядзяць з фатаграфіі на ўсіх і на ўсё тое, што дзеецца ў гэтым месцы.

Падзяляю іх спакой і надзею!

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 25 КАСТРЫЧНІКА

15.40 Літаратурны тэатр. „Не толькі пра каханне". 16.05 Тэлебачанне — школе. Прыродазнаўства. 3-ці клас. Расліны і жывёлы вадаёмаў. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Вяцкія карункі". Дак. фільм. 16.55 Спасціжэнне ісціны. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 „Дзедка за рэпку". Парады агароднікам. 18.40 „Што на свеце пачуваецца..." 19.35 Кантакт: парады, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.40 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Фенікс". Тэлесерыял. (Аўстрыя). 22.05 НІКа. 22.35 Сустрэча з кінарэжысёрам.

### АЎТОРАК, 26 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Зялёны пропуск". Дак. фільм. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Прыродазнаўства. 3-ці клас. 8.30 Клуб „Гаў-гаў". 8.45 „Пасля юбілею". Менскае мастацкае вучылішча. 9.30 „Фенікс". Тэлесерыял. 10.30 „Віртуозы Масквы". Уладзімір Співакоў. Фільм-канцэрт. 12.05 „Дарога". Дак. фільм. 12.30 Навіны. 14.15 „НОВ & К — Топ-10. 15.15 Тэлебачанне — школе. Музыка. 2-гі клас. Аб чым гаворыць музыка. 15.30 Дашкольнае выхаванне. Прамая лінія. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.45 „Кераміка на востраве Пінас". Дак. фільм. 17.00 Мы — беларусы. Перадача 1-я цыкла „Беларусы ў Амерыцы". 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 „Зоркі надзеі". Канцэрт для ўдзельнікаў дзіцячага парламента Беларусі. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НІКа. 21.55 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 22.15 Тэлевізійны Дом кіно.

### СЕРАДА, 27 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Белыя плямы лесу". Дак. фільм. 8.00 Тэлебачанне — школе. Музыка. 2-гі клас. 8.15 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.10 Пасляслоўе да чэмпіянату. 9.30 Студыя „Тэлесябрына". „Будзьце з намі!" 10.25 „Пачатак невядомага стагоддзя". Маст. фільм. 11.40 „Ты ўзыдзі, сонца яснае". Дак фільм. 12.30 Навіны. 15.30 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэааўдыё. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Тэлеклуб „Пошук". 17.00 „Справа пра дуэль". Дак фільм. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 „Карамболь. Ток-шоў з удзелам астролага Паўла Глобы. 18.40 Гаспадар. Сучаснасць і прагнозы ў эканоміцы. 19.25 „Церніца". Фільм-канцэрт. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.30 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НІКа. 21.55 „Іспанская актырса для рускага міністра". Маст. фільм.

### ЧАЦВЕР, 28 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Іспанская гадзіна". Фільм-канцэрт. 8.15 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.10 „Карамболь". Ток-шоў з удзелам астролага Паўла Глобы. 9.40 Студыя „Тэлесябрына". Веснавыя галасы. 10.10 „Усё пра цябе". Фільм-канцэрт. 11.10 „Візіт да Ван Гога". Маст. фільм. 12.30 Навіны. 16.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Матылькі высакагор'я". Дак. фільм. 17.00 „Угледзецца ў твар...". Духоўны вобраз нашага сучасніка. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.50 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 19.00 Мова, Культурна-асветніцкая праграма. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НіКа. 21.55 „Залатая дзесятка". Конкурс.

### ПЯТНІЦА, 29 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Маналог з адступленнямі". Дак. фільм. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. Культура Беларусі ў 20-я гады XX стагоддзя. 8.30 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.25 Футбол. Кубак Беларусі. 11.00 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 11.15 „У небе „начныя ведзьмы". Мастацкі фільм. 12.30 Навіны. 15.40 „ПІК" прадстаўляе... „Папараць кветка". Шоў-віктарына. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Беламорскія узоры". Дак. фільм. 16.55 Рэпартаж з рэспубліканскага семінара па вырошчванню насення кукурузы. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Палітычны калейдаскоп. „Вясна-94". Новая партыйная кааліцыя. 18.40 Студыя „Тэлесябрына". „Памінанне". Да бацькоўскай суботы. 18.55 „Малахіт". Кінанарыс. 19.05 Конкурс эстраднай песні. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзесяць гадоў без права перапіскі". Мастацкі фільм. 22.30 НІКа. 22.45 Тэлевізійны акцёрскі клуб.

### СУБОТА, 30 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Дзесяць гадоў без права перапіскі". Маст. фільм. 9.10 „Руская песня". Фільм-канцэрт. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнарожны агляд. 10.15 „І ўсё ж такі — свята!". Менскі гарадскі фестываль спорту і гумару. 11.00 Дзівосны свет. „Дапамажы сабе сам". 11.30 Цяпло душы маёй. Творчасць інвалідаў. 12.15 Скарб-93. Фестываль талентаў. 13.00 „Кампазітары Беларусі". Г. Гарэлава. Кантата „У год сусветнага пажару". 13.35 Для школьнікаў. Дарожная азбука. 13.55 „Мой маленькі поні". Мультфільм (ЗША). 1-я серыя. 14.20 „Я — жанчына". Спявае С. Кульпа. 14.40 Хрысціянская праграма. 15.10 „НОВ & К" — Топ-10. 16.10 Дабрадзея. Праграма для людзей сталага ўзросту. 16.40 Прэм'ера дак. фільма „Усё добра". 18.15 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. 19.45 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Кардэбалет". Мастацкі фільм (ЗША). 22.45 НІКа. 23.00 „Ля гасцінца". Музычная забаўляльная праграма.

### НЯДЗЕЛЯ, 31 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 „Слова да чалавека". Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 7.50 „Іспанская актрыса для рускага міністра". Маст. фільм. 9.30 Запрашаем у казку. „Голы кароль". Спектакль. 10.30 Дзень работнікаў аўтамабільнага транспатру. 11.15 „Клопат наш такі". Дак. фільм. 11.30 Роднае слова. Тэлечасопіс. 12.05 Кампазітары Беларусі. Л. Абеліевіч. Рамансы на вершы Ф. Цютчава. 12.35 Наш госць — прафесар Кафедры фізвыхавання Гродзенскага універсітэта А. І. Яроцкі. Прамая лінія. 13.25 „Асяніны". Прэм'ера і абмеркаванне відэафільма „Восень на Палессі". 14.25 З панядзелка... Камерцыя і спажыўцы. 15.00 Гандбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. 16.30 „Гінес-шоў" (Вялікабрытанія, ЗША). Частка 1-я. 17.00 Дзяржава — закон — мова. „Круглы стол" па пытаннях выканання закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. 18.15 Памяці народнай артысткі СССР Г. Макаравай. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Войскі асобага прызначэння". Тэлефільм. 1-я серыя. 20.35 „Небяспечнае насланне". Мастацкі фільм (ЗША). 22.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.

## ПЕРАД УСІМ ПАМЯШКАННЕ

Дзеячы бельскага беларускага асяроддзя апошнім часам самі прыдбалі памяшканне на беларускую дзейнасць у Бельску-Падляшскім. Знаходзіцца яно пры вуліцы Казімяжоўскай у будынку, якім раней карысталася Цеплафікацыйнае прадпрыемства (Zakład Energetyki Cieplnej). За гэтае памяшканне плаціць трэба прыблізна паўмільёна злотых месячна. Хаця бельскія дзеячы не пачалі яшчэ загаспадарваць свой набытак, то найважнейшым лічаць не выпускаць яго са сваіх рук - плаціць за памяшканне са сваіх добраахвотных складчын, салідарна.

(мак)




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### СЕЛЯДЗЕЦ З ЯБЛЫКАМІ

Прадукты:
*1-3 салоныя селядцы,*
*2-3 лусты жытняга хлеба,*
*5-6 кіслых яблыкаў,*
*некалькі лыжак алею.*

Селядцы вымачыць, зняць з іх скурку і выняць косці, дробна пасячы. Селядцовую масу перамяшаць з хлебам аднолькавага аб'ёму і ў два разы большай колькасцю яблыкаў, сцертых на дробнай тарцы. Вельмі дакладна перамяшаць, дадаючы алей (можна дадаць яго больш), палажыць на талерку ў форме рыбы, упрыгожыць скрылёчкамі ці часцінкамі кіслых яблыкаў.

ГАСПАДЫНЯ

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Мне прысніўся вельмі страшны сон пра маю дачку, а фактычна пра яе малога сынка.

Мая дачка жыве за граніцай. Але сніцца мне, што яна прыехала да мяне ў госці з малым. Нешта малы рассваволіўся, і дачка накрычала на яго. І раптам паяўляецца мой муж (ён у сапраўднасці са мною не жыве ўжо шмат гадоў і нават свайго ўнучка на вочы не бачыў). Ён пачынае бараніць хлопчыка. Хапае яго на рукі і хоча ўцякаць з дзіцём. Я не даю, б'ю яго. Вырываю дзіця з яго рук, аддаю дачцэ, а мужа выпіхаю з кватэры праз акно.

Ужо я амаль супакоілася, калі ў кватэры паяўляецца мая маці-нябожчыца. Яна разглядаецца навокал і бачыць, што мая дачка ўсё дакарае малога за тое, што ён непаслухмяны. Не можа яна гэтага вытрываць, і, схапіўшы малога, яна знікае, прападае разам з ім.

Даражэнькі Астроне! Я вельмі непакоюся, ці гэты сон не прадвяшчае чагосьці кепскага маёй дачцэ. А ты як думаеш?

Аліцыя

Аліцыя! Дачка як дачка, а з яе хлопчыкам можа штосьці не ладзіцца. У кожным разе будуць нейкія праблемы. Каб хаця ён у яе не расхварэўся! Аб гэтым гаворыць твая маці-нябожчыца, якая забрала яго з сабою, ды і тое, што ты біла свайго былога мужа і выкінула яго праз акно. Гэта на страту нейкую, хваробу ці сум.

АСТРОН

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4213. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 50.000 зл.
4214. Лявон Федарук (Гайнаўка) — 100.000 зл.
4215. Ніна Кундзюк (Пасталова) — 100.000 зл.
4216. Мар'я Лапінская (Скрыплева) — 20.000 зл.
4217. Станіслаў Лапінскі (Скрыплева) — 30.000 зл.
4218. Анна Лапінская (Скрыплева) — 20.000 зл.
4219. Рыгор Чыквін (Скрыплева) — 50.000 зл.
4220. Адольф Лапінскі (Скрыплева) — 30.000 зл.
4221. Надзея Авярчук (Пасталова) — 30.000 зл.
4222. Мар'я Авярчук (Пасталова) — 50.000 зл.
4223. Еўдакія Авярчук (Пасталова) — 10.000 зл.
4224. Ян Авярчук (Пасталова) — 20.000 зл.
4225. Ян Авярчук (Пасталова) — 20.000 зл.
4226. Ніна Авярчук (Пасталова) — 30.000 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

### ГЕАГРАФІЧНАЯ ВІРАВАНКА




Сталіцы: 1. Замбіі, 2. Амана, 3. Мальты, 4. Філіпін, 5. Бахрэйна, 8. Анголы, 10. Албаніі, 11. Іспаніі, 12. Экватарыяльнай Гвінеі; 6 і 9. афрыканская дзяржава, 7. Паўночная і Паўднёвая — штаты на поўначы ЗША.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 36 н-ра.**

**Управа:** асам, выган, Апулія, пуня, шалік, вішня, каранцін, бак, Каларада, Стаханаў, Ада, Картазар, фінал, дошка, веча, Барскі, Інары, рука.

**Уніз:** Тырана, валік, случанка, Мая, Бунін, гіена, карнавал, вінаград, баск, квас, рада, пала, Аўрамчык, Дэкарт, Біхар, карст, Роўна, вір.

**Папраўка:** У папярэднім нумары ў крыжаванцы дапусцілі мы дзве памылкі. У азначэннях павінна быць: 5. (гарызант.) - парабак і 13. (верт.) - рыдлёўка. За дапушчаныя памылкі сардэчна перапрашаем.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

*МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ*

**РАНЕЙ І ЦЯПЕР**

Раней, як мы ўжо бачылі,
Жыццё ў нас было свінячае:
Адно хапала дабрабыту, спрыту —
Таптацца ля свайго карыта.
З-за тлушчу,
З-за глухіх вушэй
Баяліся зірнуць
Далей, вышэй.

Цяпер, як усе бачым мы, —
Жыццё у нас с-с-сабачае:
Грызёмся да крыві, да зморы
За косці, што кідаюць
Нам з-за мора.

Пытанне задаю спрадвечнае:
Калі ж ты прыйдзеш,
Чалавечае?

# НІУКА

## СЕНТЭНЦЫІ

Папар збожжам не пахне.

* * *

Пража — карэнні кашулі.

* * *

Зімовае сонца, бы сабака ў наморднiку — хацела б укусіць, ды не можа.

**БАРЫС РУСКО**

## ТОСТЫ

Па моры плыве чарапаха, а на чарапасе — змяя. Змяя думае: „Калі я ўкушу чарапаху, яна ўтопіць мяне". Чарапаха думае: „Калі я скіну змяю, яна мяне ўкусіць".

Дык давайце вып'ем за жаночую дружбу.

* * *

Каб сталы ламаліся ад дастатку, а ложкі — ад кахання!

## СМЕХ У ЦЕХАЦІНКУ

— І вы, старэйшы чалавек, хочаце ўзяць маю дачку за жонку?! Вы ж маглі б быць маім мужам!

— У мяне няма на гэта ахвоты, шаноўная пані.

* * *

— Незадоўга ўся ўлада будзе ў маіх руках, — гаворыць прэзідэнт Валэнса жонцы.

— Што ты гаворыш; хочаш стаць прымасам?

* * *

— Чаму ваш дырэктар так крычыць? — пытае нямецкі інжынер сакратарку дырэктара.

— Бо размаўляе з Варшавай.

— А не можа пазваніць па тэлефоне?

* * *

— Колькі вам гадоў? — пытае абвінавачаную суддзя.

— Трыццаць пяць гадоў і некалькі месяцаў.

— А дакладна: колькі месяцаў?

— Пяцьдзесят сем.

* * *

— Бачу, што ў вас няма на чым сесці.

— Я маю на чым сесці, толькі крэсла няма.

* * *

— За што ты б'еш сваю жонку?

— Я не ведаю, але яна добра ведае.

* * *

— Хачу заказаць тры дзяўчыны, — звяртаецца 80-гадовы дзядуля да кіраўнічкі публічнага дома.

— Не справіцеся з імі, дзедку.

— Плачу і патрабую!

Кіраўнічка выбрала тры дзяўчыны, якія завялі дзядулю ў салон.

— Як распрануся, дзве памогуць мне ўлезці ў ванну, а трэцяя памые плечы. Пасля — пайшлі ўсе вон!

* * *

— Я ўпэўнена, што кожны мужчына хоча ажаніцца зжанчынай дурнейшай ад сябе.

— Ці дазналася ты пра гэта ад свайго мужа?

Сабраў **АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*Каб развесяліць чытачоў, наш карэспандэнт Андрэй Гаўрылюк у пошуках гумару і сатыры падаўся аж у Цехацінак.* **Фота Ірэны Гаўрылюк**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-р 40)*

**МОГІЛКАВЫЯ ІСТОТЫ**

**Агеньчык-вандроўнік**

У адрозненне ад большасці могільнікавых зданяў, якія маюць агрэсіўны і цалкам непрадказальны характар, агеньчык-вандроўнік даволі нейтральная ці нават лагодная істота. Пра яе паходжанне вядома дакладна: гэта душа чалавека, які пры жыцці пакінуў нейкую важную справу недаробленай, ці не здзейсніў якое-небудзь запаветнае жаданне. Па начах агеньчык-вандроўнік блукае непадалёк ад могілак і спрабуе рабіць добрыя справы — даводзіць п'яных дадому, асвятляе шафёрам небяспечныя часткі дарогі. Душа чакае, што нехта непалахлівы падзякуе ёй і спытаецца, што ж яе мучыць, не дае спакою і, дазнаўшыся, дакончыць тую справу. Аб стылі паводзін агеньчыкавандроўніка яскрава сведчыць гісторыя, якая надарылася на адным з хутароў Віленшчыны.

З даваенных часоў на мясцовых беларусаў сваімі невытлумачальнымі паводзінамі наводзіў жах агеньчык-вандроўнік атрутна-жоўтага колеру. Агеньчык хоць часам і паказваў п'яным дарогу з карчмы дахаты, але на пытанне ўдзячных п'яніц „хто ты?" і „чаго ты хочаш?" адказваў, як сцвярджалі сведкі, па-нямецку. На гэтай мове і цвярозы язык зломіць — што ўжо казаць пра п'яных! Тамтэйшыя людзі з цягам часу прызвычаіліся да гэтага і не звярталі на яго асаблівае ўвагі. Але на пачатку дзевяностых гадоў у тыя мясціны да цешчы на хутар прыехаў зяць-навуковец — буйны спецыяліст па яўрэйскай культуры Беларусі. У свой час ён вывучыў ідыш у віленскае сінагозе, дзе за кошт міжнароднага сіянізму былі адкрытыя бясплатныя курсы іўрыту і ідыш. На курсах іўрыту было поўна яўэяў — будучых эмігрантаў у даліну Бекаа і сектар Газа, а ідыш хадзіў вывучаць толькі адзін беларускі хлопец — наш навуковец. Навуковец, у першы ж дзень па прыездзе напіўшыся ў мястэчку і пазнаёміўшыся з агеньчыкам, зразумеў, што здань гаворыць не па-нямецку, а на ідыш. Завязалася гутарка, з якой высвеtлілася, што гэтая душа належыць былому ліхвяру — яўрэю-выхрысту, які ў дваццатых гадах за тое, каб перайсці ў каталіцтва, даў ксяндзу грошы пад малы працэнт.

Але ў самы апошні момант у ліхвяра спрацавала нацыянальная рыса, і замест сапраўдных ён падсунуў фальшывыя банкноты, пра што не прызнаваўся потым нават на споведзі. Пасля смерці на ліхвяра быў накладзены праклён — штотыдзень перад шабасам з'яўляцца ў віленскай сінагозе ў чалавечым абліччы і паскудзіць на стол, з якога рабін чытае тору. Каб спраўдзіць словы ліхвяра-нябожчыка, навуковец распытаў рабіна сінагогі, у якую хадзіў вывучаць ідыш, і той са страхам вымушаны быў прызнацца, што сапраўды раз на тыдзень знаходзіць на сваім працоўным месцы фекаліі, але дагэтуль маўчаць, бо баіцца, што гэта — справа рук рускамоўных антысемітаў з таварыства „Память". Згадлівы рабін зразумеў, што адзінае выйсце — вярнуць нябожчыка да іудаізму. Няёмка распавядаць, якім менавіта чынам служка культу зрабіў паўторнае і, мусіць, канчатковае абразанне нябожчыку-прывіду, але мяркуем, што сапраўды лепш пазбавіцца часткі цела, чым несмяротнае душы. Прынамсі, з тых часоў агеньчык перастаў паказваць п'яным дарогу дахаты, а ў віленскае сінагозе — чысціня і парадак.

**Трупныя прэпараты**

Гэта — таксама з'ява ў пачварным могілкавым свеце, якая праявілася ў апошнія гады. У ранейшыя часы, калі людзей хавалі без абавязковага паталагаанатамічнага даследавання, яе проста не магло існаваць. З'яву гэтую спарадзіла несумленнасць медыкаў, якія, карыстаючыся службовым становішчам, аддаюць сваякам для пахавання не ўсяго нябожчыка, а адразаючы некаторыя часткі цела мерцвякоў, пакідаюць іх для навуковых гульняў і дурных жартаў.

Крывавая трагедыя адбылася ў адным гродзенскім шпіталі: малады спецыяліст, супрацоўнік морга, адрэзаў і ўзяў на выхадныя дні руку нядаўна памерлага піяніста — даць пагуляць дзецям. Лекар прыйшоў дахаты позна ўвечары і, загарнуўшы руку ў газету, паклаў яе на балкон, але забыўся зашпіліць дзверы на шпінгалет. Уначы суседзяў пабудзіў дзікі крык, але неўзабаве ўсё сціхла. Калі раніцою пасля шматлікіх званкоў у дзверы суседзі не змаглі патрапіць у кватэру да медыка, яны выламалі дзверы і ўбачылі жудасную карціну: уся сям'я лекара загінула, кроўю былі запэцканы шпалеры, фіранкі і нават столь, а вантробы членаў сям'і звісалі з жырандоляў. Ніхто не мог даць рацыянальнага вытлумачэння гэтае трагедыі, але калегі загінуўшага бажыліся, што рука піяніста праз некаторы час зноў аказалася на сваім месцы — у труне. Падобныя выпадкі здараліся ў многіх гарадах і мястэчках, але ў іх дзейнічалі розныя, часамі самыя нечаканыя, органы.

Гэтыя гісторыі сведчаць, што часам знявага мерцвяка можа каштаваць значна даражэй, чым знявага жывога.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Міленькае Сэрцайка! Мне 25 гадоў, але я ўжо па сваёй псіхіцы старэнькая бабулька. Праўда, мо я сама ў гэтым вінавата, бо сексуальнае жыццё я пачала даволі рана. Мне было 15 гадоў, калі я ўпершыню аддалася хлопцу. Іншыя дзяўчаты аддаваліся яшчэ раней, а да мяне ж хлопцы проста ліплі...

Я хутка зразумела, што магу рабіць з хлопцамі, што хачу, і секс трывала ўвайшоў у маё жыццё. Я ведала, што я прыгожая, і змяняла хлопцаў, як рукавічкі. Адыходзіла заўсёды першая, заўсёды ўжо хтосьці чакаў.

Так было гадоў 7-8. А пасля хлопцы пачалі кідаць мяне. Я не пабрыдчэла, але пасля некалькіх спатканняў некаторыя хлопцы і мужчыны адыходзілі ад мяне, больш не тэлефануючы і не шукаючы мяне. Вядома, мы не сварыліся і не абражаліся, але я заставалася адна тады, калі зусім гэтага не спадзявалася.

Гэтыя новыя сустрэчы, калі сэрца млела ад ахвоты пазнаць новага чалавека, перарадзіліся для мяне ў катаргу. Я ж ведала, што і так усё гэта хутка скончыцца. Дык навошта наогул пачынаць, думаецца мне. Можа я не вартая таго, каб нейкі мужчына затрымаўся каля мяне на доўгі час...

Але чаму? Растлумач мне, Сэрцайка, калі можаш. Іншыя сяброўкі, брыдчэйшыя за мяне, даволі хутка пазнаходзілі сабе пастаянных хлопцаў, якія іх трымаюцца па некалькі гадоў. Некаторыя ўжо нават замуж даўно павыходзілі, дзяцей нарадзілі. А я хаджу адна. Дык ці ж варта рызыкаваць мне і заводзіць новыя знаёмствы, калі і так я ведаю, што хутка гэта скончыцца і застанецца адна горыч і крыўда? Я думаю, што не варта.

**Анеля**

Анеля! Дарма ты так думаеш. Зарызыкаваць заўсёды варта. Напэўна кожнае новае знаёмства, новае каханне — гэта рызыка, таксама як і рызыкай з'яўляецца нараджэнне новага чалавека. Невядома, па-першае, ці народзіцца дзіця цалкам здаровае, ці будзе добра расці, ці не ўтопіцца, ці не трапіць пад аўтамабіль, ці не пачне ўжываць наркотыкі, ці не вырасце з яго вырадак.

Такім чынам жыццё — гэта наогул вялікая рызыка, але мала хто хацеў бы ад яго адрачыся. З каханнем бывае таксама. Ніхто табе, вядома, не дасць гарантыі, што вось гэта ўжо знаёмства якраз перародзіцца ў вялікае каханне, ды назаўсёды. У асноўным усё залежыць тут ад цябе, ад тваіго такту, далікатнасці, розуму. Адна прыгажосць не гарантуе дзяўчыне поспеху ў мужчын.

Мо ты зарана зразумела, што можаш дырыгаваць мужчынамі, і не рабіла з сексу праблемы. Ведала, што сваім выглядам і сексам зможаш пакарыць кожнага. А думаеш, мужчыны — дурні?! Ці не адчувалі яны таго, што ад цябе вее холадам, руцінай?! Мужчына не любіць, калі дзяўчына дае яму зразумець, што ён для яе толькі адно звяно ў доўгім ланцугу мужчынска-дамскіх залежнасцей. Хлопец ці мужчына (усё адно) хочуць мець дзяўчыну для сябе. Твая самаўпэўненасць згубіла цябе. Таму і пачалі яны ад цябе адыходзіць (мо і не заўсёды да прыгажэйшай).

Зарызыкаваць нейкае новае знаёмства заўсёды варта. Мусіш, аднак, пры гэтым выказаць максімум такту і... крыху пакорлівасці.

Іншая справа, што прырода наша так створана, што ўсё народжанае мусіць калісьці памерці: і дрэвы, і іншыя расліны, і звяры, і чалавек. І каханне — таксама. Розныя прычыны складаюцца на гэта. Але калі пра яго клапаціцца, берагаць яго, пялегаваць, тады можа яго хапіць аж да канца жыцця. Бо ж і чалавек не жыве вечна.

**СЭРЦАЙКА**